14 лістапада 2014 | № 43 (412)

# Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Раскол грузінскай мары**
стар. 12

**4 ВОСЕМ ГОД ЗМАГАННЯ ЗА ЗЯМЛЮ**

З 2006 года жыхар Свіслачы спрабуе вярнуць зямлю, захопленую суседкай



**5 ЖУРНАЛІСТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ГІНУЦЬ**

Якая сітуацыя са свабодай слова ва Украіне? Як працуецца там сродкам масавай інфармацыі і журналістам?



**6 «Я З'ЕХАЛА З ГОРАДА Ў ПОШУКАХ БЕЛАРУСІ І СЯБЕ»**

З маладой настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Дварэцкай сярэдняй школы Дзятлаўскага раёна Вікторыяй Воўкавай я пазнаёміўся ў Дзятлаве падчас адной літаратурнай імпрэзы ў раённай бібліятэцы



# Каму патрэбна такая альтэрнатыва?

## Праект закона пра альтэрнатыўную вайсковую службу ўзаконьвае прыгоннае права



Сяргей ПУЛЬША

Распрацоўкай закона пра альтэрнатыўную грамадзянскую службу (АГС) — замену вайсковаму абавязку — шматлікія народныя абраннікі займаліся ва ўсіх заканадаўчых органах увесь час існавання незалежнай Беларусі. Зараз у першым чытанні закон аб альтэрнатыўнай грамадзянскай службе прыняты Палатай прадстаўнікоў. Падавалася б, гэта прагрэсіўны крок для ўсёй Беларусі.

Але калі паглядзець на гэты законапраект глыбей, то ўзнікае не тое што расчараванне, а проста шчырае здзіўленне. Дэпутаты вырашылі зрабіць з альтэрнатыўшчыкаў легалізаваных прыгонных.

Найперш, АГС — не для ўсіх, а толькі для тых, хто не можа служыць у войску паводле рэлігійных пераканнняў. А ідэйным пацыфістам усё роўна давядзецца ісці ў вайсковыя часткі.

Не салодка давядзецца крышнаітам і прыхільнікамі іншых незарэгістраваных у Беларусі канфесій. Згодна з законапраектам, грамадзянін, які жадае праходзіць альтэрнатыўную службу, абавязаны паведаміць пра гэта прызыўной камісіі, абгрунтаваць сваё хадайніцтва і мае права падаваць самыя розныя пацвярджаючыя дакументы. Між тым, пасля прыняцця новага закона аб рэлігійнай дзейнасці, тыя ж крышнаіты прынцыпова адмовіліся рэгістравацца, бо зрабіць гэта немагчыма. Такім чынам, прызыўнік-крышнаіт просіць пра АГС, а яму кажуць: «Дай жа ты, мілы чалавек, пацвярджаючы дакумент!». Калі ён яго не дасць — пойдзе ў войска. Калі дасць — у турму. За дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, хай сабе і рэлігійнай (артыкул 193-1 сучаснага Крымінальнага Кодэкса).

Выклікае пытанні і тэрмін АГС. Для грамадзян, якія не маюць вышэйшай адукацыі, ён складзе 36 месяцаў, для грамадзян з вышэйшай адукацыяй — 24 месяцы. Тры гады ў «альтэрнатыўцы» — ці не замнога?

Праходжанне альтэрнатыўнай службы будзе ажыццяўляцца ў арганізацыях сацыяльнай сферы (бальніцы, дамы-інтэрнаты, хоспісы і г.д.), а таксама ў сістэме ЖКГ, у лясной гаспадарцы і іншых галінах. То бок, малады чалавек з вышэйшай адукацыяй два гады будзе месці вуліцы. Ці не карысней было б скарыстаць маладога спецыяліста па ягонай спецыяльнасці, а не звужваць (тым больш, заканадаўча) сферу дзейнасці «альтэрнатыўшчыкаў»?

А зараз — самае цікавае. У перыяд праходжання АГС грамадзянін не мае права займацца прадпрымальніцтвам і любой іншай працай, якая прадугледжвае атрыманне даходу. Усё, чым давядзецца яму задавольвацца, — штомесячным грашовым утрыманнем у памеры 150% ад найбольшай велічыні бюджэту пражытковага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва за два апошнія кварталы. Памер грашовага ўтрымання будзе павышацца на 20% БПМ, пачынаючы з 13-га месяца альтэрнатыўнай службы; на 40% — пачынаючы з 25-га месяца альтэрнатыўнай службы. Працоўны тыдзень будзе працягвацца шэсць дзён (па восем рабочых гадзін на дзень).




У цяперашні час БПМ для працаздольнага насельніцтва вызначаны ў 1 510 040 рублёў. То бок, «альтэрнатыўшчык» пры добрым раскладзе будзе працаваць за 2 мільёны 225 тысяч у месяц.

У войску дзяржава выдаткоўвае на салдата не пражытковы мінімум. Салдат апрануты, абуты, ежа — бясплатная, пражыванне — таксама, выдаецца нейкі мінімум грашовага ўтрымання, але ў той жа час — ніякіх камунальных плацяжоў! А што ў нас па новым законе з «альтэрнатыўшчыкамі»? Яны толькі «маюць права на прадастаўленне жылога памяшкання на перыяд службы». Ніхто не абяцае ім, што гэтае жыллё будзе бясплатным і што за яго не трэба будзе плаціць яшчэ і «камуналку». Таксама ніхто не абяцае іх карміць, паіць і апранаць.

Разганіся на ўсё гэта за два мільёны ў месяц!

Апроч усяго, прыняты ў першым чытанні заканадаўчы акт адразу ж уступае ў супярэчанне з нормай Працоўнага кодэкса пра 40-гадзінны працоўны тыдзень — у «альтэрнатыўшчыка» назіраецца на тыдзень 48 працоўных гадзінаў. У той жа час, «альтэрнатыўшчык» застаецца і поўнасцю безабаронным перад дзяржавай: ён не мае права на ўдзел у забастоўцы і абавязаны на час праходжання службы прыпыніць сваё сяброўства ў палітычных партыях і грамадскіх аб'яднаннях.

Калі пра партыі ўсё зразумела: АГС «прыраўнялі» да войска, якое ў нас дэ-юрэ па-за палітыкай, то наконт грамадскіх аб'яднанняў — чыстая перастрахоўка. Грамадскае аб'яднанне — гэта і прафсаюз, які мог бы ўлезці ў абарону працоўных правоў АГСніка.

У законапраекце вызначаны меры адказнасці за ўхіленне ад альтэрнатыўнай службы і парушэнні падчас яе праходжання, то бок «звольніцца» з яе ці запатрабаваць лепшых умоваў працы АГСнік магчымасці не мае.

Такім чынам, дзяржава за кошт АГСнікаў атрымлівае армію цалкам бяспраўных прыгонных, якія фактычна працуюць «за харчы». А тое і без харчоў, калі «альтэрнатыўшчык» яшчэ падумае больш-менш прыстойна апранацца ці плаціць хаця б «камуналку» за пражыванне.

Адкрываем таталізатар: на якім месяцы «службы» АГСнік страціць прытомнасць ад голаду?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАБРУЙСК. Актывісты падтрымалі галадоўнікаў

**Неабыякавыя бабруйчане звярнуліся ў гарвыканкам і адміністрацыю завода ТДіА.**

Грамадскія актывісты падрыхтавалі зварот, у якім выказваюць пратэст супраць дзеянняў кіраўніцтва гэтага прадпрыемства ў адносінах да звольненых працоўных — Мікалая Жыбуля, Аляксандра Варанкіна, Аляксандра Грамыкі і Алега Шаўчэнкі.

Бабруйчане абураныя бяздзеяннем чыноўнікаў і патрабуюць ад старшыні гарвыканкаму «спыніць ціск на сябраў СПБ, уступіць у перамовы з удзельнікамі галадоўкі, выканаць іх законныя патрабаванні аб аднаўленні на працы, выйсці з прапановай да Міністэрства прамысловасці Рэспублікі Беларусь аб неадкладным скасаванні кантракту з дырэктарам БЗ ТДіА Аляксандрам Аграновічам, які дыскрэдытуе пасаду кіраўніка прадпрыемства».

Аўтары звароту адзначаюць, што будуць заклікаць грамадзян на акцыю салідарнасці з галадоўнікамі, калі іх патрабаванні не будуць выкананыя. Пад зваротам падпісаліся 14 чалавек, у тым ліку старшыня бабруйскай суполкі прафсаюза РЭП Галіна Смірнова, намеснік старшыні гарадской арганізацыі АГП Алег Родзічаў, старшыня бабруйскай суполкі беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Грамада» Юры Грынявецкі, бабруйская каардынатарка БХД Таісія Кабанчук, Святлана Грыцэнка, якая далучылася да галадоўкі, Тамара Васьковіч — бабуля палітвязня Яўгена Васьковіча ды іншыя бабруйчане.

Раніцай 12 лістапада зварот быў перададзены ў гарвыканкам.

### ГРОДНА. Вольгу Крапоціну будуць судзіць

**Вядомы ў Гродна па многіх «палітычных» адміністрацыйных справах маёр Алег Кока завітаў да грамадскай актывісткі Вольгі Крапоцінай.**

Маёр прынёс ёй разам з вынікам экспертызы забраных раней улётак пратакол пра нібыта здзейсненае правапарушэнне паводле артыкулу 22.9 Адміністрацыйнага кодэксу. Крапоціну вінавацяць у незаконным вырабе і распаўсюдзе друкаванай прадукцыі. Бліжэйшым часам яе чакае выклік у суд на разгляд справы.

Нагадаем, што 19 верасня міліцыя затрымала Вольгу Крапоціну ў цэнтры гораду і забрала ў яе 17 улётак з тэкстам «Верните Крым! Руки прочь от Украины» і «Ганьба здраднікам Радзімы з «трыкалорам» у зубах. Пуцін вам далонь падсіне, як удзыме на штыках!». Крапоціну тады трымалі пару гадзін у РАУСе, а потым па месцы яе жыхарства правялі ператрус.

### БАРАНАВІЧЫ. Забяспечыць навучанне па-беларуску

**Бацькі дзяцей былога адзінага беларускамоўнага класа ў Баранавічах Тацццяна і Алег Малашчанкі, а таксама Антаніна і Васіль Філіпчыкі накіравалі ліст міністру адукацыі Сяргею Міскевічу.**

Улісце паведамляецца, што ў гэтым годзе іх дзеці Ядзвіга Малашчанка і Аліса Філіпчык скончылі адзіны ў горадзе чацвёрты беларускамоўны клас СШ № 14 і ў сувязі з переменай месца жыхарства падалі заяву на навучанне па-беларуску ў пяты клас гімназіі № 4. Але гарадскія і школьныя чыноўнікі адмовіліся стварыць беларускамоўны клас.

«Канстытуцыя, а таксама закон аб роўнасці двзюх дзяржаўных моваў і Кодэкс РБ аб адукацыі забяспечваюць нам права выбару мовы адукацыі ў любой навучальнай установе краіны. Таму незразумела, чаму мы амаль 5 месяцаў павінны працягваць змаганне з дзяржаўнымі і школьнымі чыноўнікамі. Усе адмоўныя адказы на нашы звароты аб жаданні вучыцца па-беларуску нам пішуцца быццам нібыта па чыёйсьці ўказцы і адной рукой. Спачатку чыноўнікі спасылаліся на сярэднюю напаўняльнасць класаў, падвышаючы кожны раз лічбу, затым — на выніку сумоўя з іншымі бацькамі, цяпер — на стварэнне нейкіх «спрыяльных умоў для ўдзелу ў пазакласных мерапрыемствах... якія прадугледжваюць стварэнне камунікацыі, асяроддзя, зносін на беларускай мове... у акрэсленых рамках». Мы просім адукацыю па-беларуску, а нам прапануюць нейкую «камунікацыю на беларускай мове» ва ўмовах «русского мира». У выніку бюракратычная цяганіна доўжыцца, а навучанне на роднай мове няма, таму мы і звярнуліся да міністра адукацыі», — паведаміла Таццяна Малашчанка.

Бацькі настойваюць на выкананні іх законных патрабаванняў і просяць міністра адукацыі забяспечыць навучанне Алісы Філіпчык і Ядзвігі Малашчанкі на дзяржаўнай беларускай мове ў гімназіі №4 г. Баранавічы.

**Паводле spring96.org**

# Лешак Шарэпка: Становішча вяртаецца да нормы

Сяргей ПУЛЬША

**Кіраўнік дыпламатычнай місіі Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка відавочна задаволены тым, што адбываецца ў стасунках паміж краінамі. Не хаваючы асобных праблем, ён адзначае: адносіны паміж краінамі вяртаюцца да нармальных. Канешне, яны яшчэ не зусім нармальныя, але...**



Нармалізацыі адносінаў паміж дзвюма краінамі паспрыяў шэраг фактараў. Найперш, канешне, гэта вайна ва Украіне і яе наступствы. Шарэпка адкрытым тэкстам пра гэта не казаў, але адзначыў, што менавіта «мінскія дамоўленасці» сталі адной з прычынаў візіту міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея ў Варшаву. «Мы вельмі цэнім тое, што пра гэтыя дамоўленасці мы атрымалі інфармацыю з першых вуснаў», — адзначыў пасол Польшчы.

Пад уплывам тых жа ўкраінскіх падзей афіцыйны Мінск крыху развярнуўся тварам да Захаду. Па словах Шарэпкі, «упершыню за чатыры-пяць гадоў» адбылася міжмідаўскія кансультацыі на ўзроўні намеснікаў міністраў і ўзаемныя візіты ўрадаўцаў розных узроўняў: нашых — у Польшчу, польскіх — у Беларусь.

Але палітычная «размарозка» мала каго хвалюе, калі гэтае паляпшэнне не адчуваецца грамадзянамі, як кажуць, на «сваёй кішэні». І тут таксама ёсць чым пахваліцца.

Найперш, усіх, канешне, хвалюе пытанне візаў. Як адзначыў пан Шарэпка, Польшча застаецца адным з лідараў па выдачы візаў беларусам. У мінулым годзе іх было выдадзена каля 350 тысячаў, а ўжо зараз, на 1 кастрычніка гэтага года — 325 тысяч. Калі спраўдзіцца прагноз пасла, то ў гэтым годзе колькасць выдадзеных візаў дасягне 380 тысячаў.

Увесну наступнага года Польшча мае намер адкрыць у Беларусі аж восем візавых цэнтраў: ва ўсіх абласных гарадах і ў дзвюх найбольш буйных. Ёсць яшчэ адна магчымасць палепшыць візавую сітуацыю, і Польшча яе скарыстала. Гэта тое, што консульствы пачалі выдаваць не гадавыя, а двухгадавыя візы. То бок, зніжаецца колькасць зваротаў па візы.

Адзіная праблема: рашэнне пра выдачу альбо адмову візаў прымае консул. Значыць, стаіць задача павялічыць колькасць консулаў у Беларусі. Польшча, па словах Шарэпкі, можа прадставіць для гэтага столькі консулаў, колькі патрэбна. Складанасці толькі ў тым, колькі консулаў пагодзіцца прыняць беларускі бок. Над гэтым працуюць беларускія і польскія дыпламаты.

Прыкладна такая ж праблема — непаваротлівасць беларускага боку — адбываецца з малым памежным руху паміж Польшчай і Беларуссю. Беларускі бок кажа, што патрэбна сфармаваць памежныя пераходы, правесці іх пераабсталяванне і гэтак далей, каб не было нейкіх нязручнасцяў. Шарэпка лічыць, што малы памежны рух трэба ўводзіць максімальна хутка, а потым мадэрнізаваць памежныя пераходы. Бо інакш мы дамагаемся ідэалу, каб зрабіць усё лепш, лепш і лепш, а ў выніку — зацягваем працэс да бясконцасці.

# Мінск развітаўся з Валерыем Фраловым

Сяргей ПУЛЬША

**Шчыры, незласлівы, вясёлы — так пра Фралова ўзгадваюць усе. Прычым безадносна ад таго, ці належалі яны да «ідэйных прыхільнікаў» генерала альбо мелі з ім разыходжанні ў поглядах...**



11 лістапада ў Мінску прайшло развітанне з Валерыем Фраловым. У апошні шлях праводзіць яго сабралася даволі шмат народу. Сябры па беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада), іншыя палітыкі. Калегі па войску, журналісты і проста людзі, якія з ім сутыкаліся.

Падаецца, у ягоным жыцці было столькі, што для іншых хапіла б на два-тры жыцця. Пачаўшы з працы на МАЗе, ён скончыў вайсковую вучэльню — і даслужыўся да генерал-маёра. Быў начальнікам штаба армейскага корпуса, камандзірам армейскага корпуса. Падавалася, што яшчэ трэба?

Тым не менш, ён сышоў у палітыку, стаў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў. Створаная ім дэпутацкая група «Рэспубліка» сапраўды імкнулася зрабіць жыццё лепшым. Гэта яны першымі патрабавалі няўдзелу Аляксандра Лукашэнкі ў прэзідэнцкіх выбарах і дэмакратызацыі выбарчага заканадаўства — тады, калі пра гэта ніхто не задумваўся. Зараз пра гэта гаворыць палова апазіцыі.

Не дзіва, што пасля Фралоў сышоў у апазіцыйны лагер. Быў даверанай асобай Аляксандра Казуліна ў 2006-м годзе, быў у камандзе Андрэя Саннікава ў 2010-м. Застаючыся нібыта «на другіх ролях», ён заўсёды быў уплывовай фігурай. Бо быў шчырым і адказным чалавекам. Простая шчырасць — пра гэта выказваліся ўсе суразмоўцы, усе ягоныя калегі, якія прыйшлі з ім развітацца.

Апошнім часам Валер Фралоў шчыльна працаваў у кампаніі «Народны рэферэндум». Прынамсі, менавіта ён удзельнічаў у распрацоўцы аднаго з пытанняў: ці быць вайсковым базам Расіі ў Беларусі?

Спадар Фралоў быў і застаўся адным з людзей, у якіх гэтая ўлада скрала час і скрала магчымасці. І тое, як ён у свой час паказаў сябе ў парламенце, у «палатцы», і тое, як пра яго кажуць тыя, з кім ён служыў... Каб краіна была нармальнай, можа быць, ён бы не быў у палітыцы, а калі б ён быў палітыкам — ён бы быў адным з найвядомейшых палітыкаў Беларусі. Яго б лёс не склаўся б так сумна. Гэта быў чалавек, які не ўлазіў у межы гэтага рэжыму. Таму, безумоўна, гэта і трагедыя чалавека...

«Я думаю, што яго будуць памятаць: і як вайскоўца, і як палітыка, і як чалавека. Можа быць, у новай Беларусі і з'явіцца вуліца імя Валерыя Фралова», — сказаў экс-суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў.

Пахаваны Валер Фралоў у сябе на радзіме, у Гродна.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Чым сэрца супакоіцца?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Падавалася б, шараговая нарада ў кіраўніка дзяржавы: урад зноў будзе рапартаваць пра дасягненні і поспехі, маўкліва выслухоўваць крытыку і запісваць за Аляксандрам Рыгоравічам чарговыя невыканальныя мэты. Але падчас справаздачы ўрада і Нацыянальнага банка аб рабоце эканомікі за 2014 год і прагнозе на 2015-ы, якая прайшла ў Лукашэнкі 11 лістапада, адбылося дзіўнае — там сапраўды спрачаліся, па якім шляху пойдзе краіна.**

У прынцыпе, узаемныя рознагалоссі вядомыя, дзіўна было толькі, што яны ўпершыню былі агучаныя, вынесеныя «на публіку» і адбыліся перад кіраўніком дзяржавы. Нацбанк выступае за жорсткую грашовую палітыку, «збіванне» інфляцыі і спыненне «накачкі» эканомікі нічым не забяспечанымі грашыма. Але пры такой схеме працы ўрад не можа выканаць узятыя на сябе абавязальніцтвы па прагнозах развіцця гаспадаркі. Выканаць іх магчыма толькі пры «накачцы» эканомікі пустымі грашыма ў выглядзе танных крэдытаў прадпрыемствам.

На гэтым тле счапіліся старшыня Нацбанка Надзея Ермакова і старшыня Камітэта дзяржкантролю Леанід Анфімаў. «Усе выдатна разумеюць, што пры такіх стаўках крэдытаў эканоміка не развіваецца. Я не кажу пра «абаротку», гаворка ідзе пра «доўгія грошы». Без падтрымкі дзяржавы пайсці на крэдытаванне інвестыцыйнага праекта можа толькі смяротнік. Банкаўская сістэма стала свайго роду МММ, дзе ламавыя нагрузкі цягнуць прадпрыемствы рэальнага сектара», — вяшчаў Анфімаў.

Ермакова не пагадзілася з тым, што банкаўская сістэма ператварылася ў МММ. Але грошы Анфімаву даваць усё роўна адмовілася. Выйсце, як заўсёды, знайшоў Аляксандр Рыгоравіч, загадаўшы Ермаковай «уціснуцца ў выдатках»: «Каб не было больш размоў наконт таго, што вы там жыруе разам з банкамі, давайце дамовімся. Ваша зарплата павінна быць блізкая да зарплаты прэм'ера. Усе астатнія павінны быць выбудаваны, як ва ўрадзе. Хто не хоча працаваць — звальняйце адразу. Тое ж самае па выдатках усіх банкаў. Абыдуцца двума аўтамабілямі ў Нацбанку — значыць, два аўтамабілі. Забеспячэнне, зарплата, праграмнае забеспячэнне, без якога не абысціся — асабіста зацвердзіць кожнаму. Усё астатняе зняць», — зазначыў Лукашэнка.

«Нягледзячы ні на якія банкі — ні на беларускія, ні на расійскія, ні на замежныя, — усіх падстрыгчы пад адзін капыл. І тады, калі і дрэнна будзе, мы народу зможам растлумачыць. Дрэнна? Дрэнна ўсім», — загадаў беларускі кіраўнік.

Усё ўзяць ды падзяліць, пастрыгчы пад адзін капыл — гэтая прапанова так і блішчыць навізной і арыгінальнасцю, ці не так? Вось толькі стане ад гэтай стрыжкі больш грошай для крэдытавання прадпрыемстваў? Наўрад ці.

Таксама сварка ўзнікла паміж прэм'ерам Міхаілам Мясніковічам і эканамічным дарадцам Лукашэнкі Кірылам Рудым. Мясніковіч таксама патрабаваў крэдыты. Руды паспрабаваў патлумачыць яму «на пальцах»: каб былі крэдыты, стаўка па іх павінна быць не вышэй рэнтабельнасці, але тым жа часам — вышэй інфляцыі, каб гэтыя крэдыты не ператварыліся адразу ж у «фанцікі». «Напрыклад, для прамысловасці стаўка павінна быць не больш за 10%. Значыць, інфляцыя павінна быць не больш за 9%», — казаў Руды. Бо калі рэнтабельнасць прадпрыемства — 10%, а інфляцыя — 16%, ніякія крэдыты не дапамогуць.

Руды прапанаваў зрабіць прыярытэтам зніжэнне інфляцыі да 9%, і нават (О, божухна! На святое замахнуўся!) скарацiць шэраг дзяржпраграм.

«Трэба разумець, што інвестактыўнасць панізіцца, ВУП будзе менш 100%, і заробак будзе ніжэй», — запярэчыў Мясніковіч.

Але Руды працягваў гнуць сваю лінію: за кошт зніжэння інфляцыі намінальны заробак (колькасць нулёў у разліковых лістках), канешне, паменшыцца, але рэальны заробак (тое, што можна купіць на гэтыя грошы) узрасце. Дый зніжэнне працэнтных ставак, наадварот, стымулюе інвестыцыйную актыўнасць, — інвестар упэўнены, што грошы верне.

«У гэтай сітуацыі нельга вырываць пытанні з агульнага кантэксту, — выбухнуў Мясніковіч. — Перадусім мы павінны глядзець, каб было спакойна на валютным рынку!» Але насамрэч усе ўжо зразумелі, што хвалюе прэм'ера. Яго хвалюе ВУП.

Узнікае пытанне, якое задаецца markedly рознымі эканамістамі ўжо не адно дзесяцігоддзе: на халеру нам той ВУП? Тым больш такі, які лічыцца, як зараз, па створанай, а не прададзенай прадукцыі. Гэта разззлавала нават Лукашэнку: па яго словах, наш ВУП асядае на складах, прычым, запасы гатовай прадукцыі «не толькі вышэй за ўстаноўлены самім урадам нарматыў, але і за ўзровень далёка не паспяховага мінулага года». «У чым справа? Я катэгарычна забараняў працаваць на склад! І не прымушаў вас гнаць аб'ёмы», — раззлаваўся кіраўнік дзяржавы.

У гэтым рэчышчы Аляксандр Рыгоравіч «імём рэвалюцыі» загадаў падтрымаць айчыннага вытворцу: «Якія вы будзеце шукаць метады і шляхі, каб падтрымаць айчыннага вытворцу, гэта ваша пытанне. Але літаральна з заўтрашняга дня Мінгандаль, губернатары і мэр Мінска разам са старшынёй ДМК прыміце самыя рашучыя меры па абароне вытворцы, пачынаючы ад гандлю і заканчваючы мытнай мяжой», — сказаў ён. А таксама паведаміў, дзе прадпрыемствам браць грошы на інвестыцыі. «Адкуль узяцца прыбытку і так званай «абаротцы», калі беларускія прадпрыемствы крэдытуюць сваіх замежных партнёраў! Даўгі нашым прадпрыемствам за пастаўленую прадукцыю з пачатку года выраслі ў 1,7 разы да амаль $600 мільёнаў. Пытанне: калі грошы вернуцца ў краіну?» — спытаў Лукашэнка.

Карацей, гэта была самая цікавая нарада ў Лукашэнкі за апошнія гадоў так дзесяць. Але што будзе вынікам гэтага гармідару?

На вялікі жаль, амаль нічога. Праекты дакументаў развіцця краіны на 2015 год павінны быць дапрацаваныя да 25 лістапада. Наўрад ці ў іх будзе нешта рэвалюцыйнае.

Адзіная навіна, — да Новага года мы будзем калі не з зусім новым, то з абноўленым урадам. «Я не хаваў, што для мяне зараз праблема нумар адзін, улічваючы формулу «кадры вырашаюць усё», — сфарміраваць да пачатку года баяздольны склад урада. Я не кажу, што трэба ўсіх разагнаць. Можа, і вы яшчэ з гэтым урадам можаце не толькі патроны падносіць, але і «кулямёт» у руках трымаць», — заявіў Лукашэнка.

Дзіўна. «Стары ўрад» ставіць задачы для новага ўрада, і сыдзе ў адстаўку. Ці не лепш было б, каб гэтыя задачы ставіў бы новы ўрад? Тады б мы б хаця б ведалі, хто вінаваты. А тое, як заўсёды, вінаватых не дашукаешся…

**Сварка ўзнікла паміж прэм'ерам М. Мясніковічам і эканамічным дарадцам Лукашэнкі К. Рудым. Мясніковіч парабаваў крэдыты. Руды паспрабаваў патлумачыць яму «на пальцах»: каб былі крэдыты, стаўка па іх павінна быць не вышэй рэнтабельнасці, але тым жа часам — вышэй інфляцыі**

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Лідзія Ярмошына



**У той час, як усе імкнуцца скараціць выдаткі і з'эканоміць бюджэтныя грошы, старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына імкнецца іх патраціць.**

Яна ўжо падлічыла, у колькі абыдуцца наступныя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі. Сума выйшла неблагая — 100 мільярдаў рублёў, альбо прыкладна 10 мільёнаў долараў.

«Гэтая выбарчая кампанія не адносіцца да катэгорыі самых дарагіх. Значна даражэй абыходзяцца мясцовыя выбары, калі значна больш кандыдатаў. Тым не менш мы пастараемся, каб усё прайшло годна», — намякнула Ярмошына, што няблага было б і павялічыць суму.

ЦВК арыентуецца на тое, што на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах будзе прыкладна 15 кандыдатаў. «Я не думаю, што іх будзе больш, таму што пераадолець бар'ер у 100 тысяч подпісаў вельмі цяжка», — сказала Ярмошына.

Прэзідэнцкія выбары 2010 года каштавалі краіне крыху больш за 26 мільярдаў рублёў. Зараз каштарыс у чатыры разы большы. Але ж і беларускі рубель у выніку тых выбараў і крызісу 2011 года зваліўся з трох да 10 тысяч за «зялёны».

## Антон Сурапін



**Былы фігурант па справе «плюшавага дэсанту», падазраваны фатограф канчаткова рэабілітаваны.**

Пра гэта Антон даведаўся вельмі цікавым чынам — яму прыйшла павестка ў войска. Зазвычай, падазраваных у злачынстве ў войска не бяруць.

Як паведаміў Сурапін, у гэтым годзе ён скончыў Інстытут журналістыкі БДУ і застаўся жыць у Мінску. «А потым патэлефанавала маці і сказала, што на слуцкі адрас прыйшла позва ў ваенкамат «для ўдакладнення звестак». Сябры казалі, што магу не ехаць, мауляў, позву аддалі не пад подпіс, а ўкінулі ў паштовую скрыню. Тым не менш, я паехаў разабрацца, і літаральна на мінулым тыдні атрымаў позву на «адбыццё ў войска», — кажа Сурапін.

«Спачатку рэакцыя была прыкладна такая: у чым справа? Потым стала крыху сумна — толькі што вучобу скончыў, нарэшце атрымаў поўную свабоду, і вось такая навіна. Але сітуацыя з арміяй асабіста для мяне не трагічная», — сказаў ён.

Сурапін распавёў, што для сябе знайшоў некалькі прычынаў служыць у войску. «Па-першае, навучыцца трымаць у руках зброю — патэнцыйна важны навык. Каб абараняць радзіму, калі што здарыцца, ад стварэння якіх-небудзь «Гомельскіх Народных Рэспублік». Па-другое, добрая нагода пераасэнсаваць сваё жыццё і вызначыцца з планамі на грамадзянскую будучыню. Па-трэцяе, спадзяюся, што прывяду цела ў добры стан, падкачаюся, можа, кіну паліць. Ну і, нарэшце, люблю прыгоды. У СІЗА КДБ быў, а ў войску не быў — трэба выпраўляць», — адзначае Сурапін.

## Вікторыя Азаранка



**Зорная беларуская тэнісістка ў гэтым годзе нас расчаравала, датэрмінова скончыўшы сезон, і скацілася з першых месцаў рэйтынгу WTA аж за «трыццатку».**

У Уладзіміра Высоцкага ёсць песня пра канькабежца на кароткія дыстанцыі, якога прымусілі бегчы на доўгую. Зразумела, ён «спёкся», і яго адлучылі ад любімага спорту. Але той не разгубіўся, пачаў займацца барацьбой і боксам, і яго сталі паважаць нават тыя, хто забараніў займацца яму ягонай справай.

Нешта падобнае адбываецца зараз з Вікторыяй Азаранка. Але ў сваім блогу на сэрвісе Instagram яна паведаміла, што ў дадзены момант вырашыла заняцца боксам.

«У дадзены момант я вырашыла заняцца боксам. Пецер Берг — выдатны спарынг-партнёр, але хутка я змагу пакласці яго адным джэбам. Паглядзім, чаго я даб'юся», — напісала Азаранка, суправадзіўшы паведамленне фотаздымкамі.

Адразу ж пасля гэтага паведамлення прыйшла навіна, што Азаранка паднялася на адну пазіцыю ў рэйтынгу WTA, апублікаваным 10 лістапада. Цяпер лепшая беларуская тэнісістка займае 31-е месца. Здавалася б, пры чым тут бокс?

14 лістапада 2014 | № 43 (412) Новы Час

# Восем год змагання за зямлю

Таццяна ШАПУЦЬКА

**З 2006 года жыхар Свіслачы спрабуе вярнуць зямлю, захопленую суседкай. За гэты час Валерый Матэйка па некалькі разоў абышоў усе інстанцыі — ад раённага суда і пракуратуры да Вярхоўнага суда і Адміністрацыі прэзідэнта, але плёну гэта не дало.**

## Сляпая Феміда?

Як расказаў «Новаму Часу» Валерый Матэйка, у 2000 годзе ён вырашыў пераехаць з вёскі Празднікі (Свіслацкі раён) у Свіслач — набыў там кавалак зямлі ў цэнтры горада. У 2006 годзе мужчына пачаў будаваць новы дом замест старога знесенага, таму купіў будаўнічыя блокі, якія пакінуў захоўвацца на сваім участку. А праз некалькі дзён заўважыў, што суседка раптоўна перанесла свой плот, адрэзаўшы паўтары соткі ад яго ўчастку.

Менавіта за гэтую зямлю ўжо каторы год і вядуцца спрэчкі. З аднаго боку, кавалак не такі і вялікі, але калі ўлічыць, што агульная плошча ўчастка Валерыя складала ўсяго 5,5 сотак (для параўнання, у суседкі — 8 сотак) — страты істотныя.

Валерый Матэйка падаў позву ў суд з просьбаю прымусіць суседку вярнуць адабраныя метры, мясцовы выканкам падтрымаў яго пазіцыю, аднак суд нечакана прыняў бок суседкі. Больш за тое — прызнаў дакументы на зямлю, выдадзеныя Валерыю чыноўнікамі, нядзейснымі!

«У судзе высветлілася, што ў суседкі наогул няма ніякіх праваўсталёўваючых дакументаў на яе ўчастак. То бок, у мяне ёсць афіцыйны акт на зямлю, выдадзены выканкамам у 2000 годзе, з акрэсленымі межамі ўчастка, у яе ёсць толькі рашэнне Свіслацкага раённага савета дэпутатаў за 1957 год пра выдачу яе мужу васьмі сотак зямлі — і суд прымае яе бок! Не толькі прымае, але і дае прадпісанне выканкаму прызнаць выдадзеныя мне дакументы на зямлю нядзейснымі з-за таго, што ў іх, быццам бы, няправільна ўказаны памеры майго ўчастку. Гэта проста жахліва!» — абураецца Валерый, паказваючы агромністы стос дакументаў з судовых пасяджэнняў і перапіску з чыноўнікамі.

Наяўнасць сведак, якія распавялі ў судзе, што раней плот сапраўды стаяў у іншым месцы, не паўплывала на рашэнне суддзі — суседка Валерыя Матэйкі прывяла сведак са свайго боку, якія расказалі адваротнае, і суд прыняў да ведама толькі іх словы.

Валерый Матэйка расказаў, што суседка сама распісвалася ў дакуменце, што азнаёмлена і згодна з межамі суседскага ўчастка. У судзе ж жанчына спаслалася на свой сталы ўзрост і заявіла, што тады яе ўвялі ў зман. Заўважым, што ні ўзрост, ні юрыдычная бяспечнасць пенсіянеркі не перашкодзілі жанчыне наняць адваката і падаць зваротную позву на Матэйку з просьбаю прызнаць яго дакументы на зямлю нядзейснымі.

Як распавёў мужчына, па просьбе суда двойчы праводзіліся экспертызы, якія мусілі дакладна вызначыць межы ўчастка. Першая экспертыза, якая праводзілася лазерным дальнамерам, паказала, што каардынаты, указаныя ў яго дакументах на зямлю, правільныя. Паўторную экспертызу праводзілі звычайнаю рулеткай — і на гэты раз было прынята рашэнне, што спрэчныя метры належаць суседцы, а мяжу паміж двума



**Алег Волчак (злева) і Валерый Матэйка.** Фота аўтара

**Страціўшы надзею самастойна дамагчыся вяртання зямлі, Валерый Матэйка звярнуўся ў цэнтр «Прававая абарона насельніцтва», юрысты якога дапамаглі мужчыну скласці позву ў Прэзідыум Вярхоўнага Суда Беларусі.**

ўчасткамі праклалі прама праз сарай Матэйкі.

Валерый Матэйка не можа зразумець, чаму суды ды іншыя дзяржаўныя інстанцыі прымаюць бок суседкі, і мяркуе, што прычынай могуць быць нейкія фальсіфікацыі з дакументамі. Мужчына не выключае, што на рашэнне суддзі магло паўплываць і тое, што яго суседка і сведкі з яе боку — карэнныя жыхары Свіслачы, у той час як ён, паляк па нацыянальнасці, прыезджы — дагэтуль працаваў на Ігналінскай АЭС.

Зараз Валерый Матэйка працягвае прыязджаць на ўчастак, аднак будаўнічыя працы прыпыніў: «З-за таго, што дзяржаўны акт прызналі нядзейсным, зараз я ніяк не магу выкарыстоўваць зямлю ці далей будаваць дом — дарэчы, свайго жытла ў мяне няма. У крайнім выпадку, калі далейшыя абскарджванні судовых рашэнняў будуць не на маю карысць, буду патрабаваць вярнуць мне грошы за ўчастак у цэнтры гораду па цяперашніх расцэнках і сродкі, якія я патраціў на будаўнічыя матэрыялы і будаўніцтва «каробкі» дома».

## Ці дапаможа Прэзідыум Вярхоўнага Суда?

Страціўшы надзею самастойна дамагчыся вяртання зямлі, Валерый Матэйка звярнуўся ў цэнтр «Прававая абарона насельніцтва», юрысты якога дапамаглі мужчыну скласці позву ў Прэзідыум Вярхоўнага Суда Беларусі. Кіраўнік праваабарончага цэнтра, юрыст Алег Воўчак лічыць, што падобныя гісторыі дыскрэдытуюць дзяржаўныя органы:

«Суд паставіў пад сумнеў рашэнне выканкама. Дык што, атрымоўваецца, выканкам дзейнічаў неправамоцна, калі ў 2000 годзе выдаваў дзяржаўны акт? Тут жа і выканкам, і натарыус, і «Белдзяржпраект» ды іншыя арганізацыі задзейнічаны — іх дзеянні ставяцца пад сумнеў? Тады трэба ўзбуджаць крымінальныя справы супраць іх, калі яны нешта парушылі, зрабілі фальсіфікацыю ці падлог дакументаў. Аналагічныя гісторыі часта сустракаюцца ў Беларусі, зараз мы паралельна працуем над іншай падобнай справай у Оршы. Трэба весці гаворку пра тое, што практычна немагчыма ўздзейнічаць на суддзяў, да якіх, максімум, ужываецца дысцыплінарная адказнасць. Мы пішам скаргі — нам адказваюць, маўляў, суддзя прыняў рашэнне паводле ўнутраных перакананняў. Прабачце, але бачная прамая фальсіфікацыя справы, дык якія тут могуць быць унутраныя перакананні? Тут альбо непрафесіяналізм, альбо карупцыя — трэцяга не дадзена. У дадзеным выпадку я мяркую, адбываецца спроба прыкрыць незаконныя дакументы».

Алег Воўчак спадзяецца на станоўчы вынік разгляду справы Матэйкі ў Прэзідыуме Вярхоўнага Суда: «Па-першае, перад новым судовым паседжаннем паспрабуем арганізаваць сустрэчу Валерыя Матэйкі са старшынёй суда, Валянцінам Сукалам. Па-другое, Вярхоўны Суд павінен разумець, што раней прынятае рашэнне — гэта не рашэнне... Суду трэба тэрмінова ўмешвацца ў гэтую сітуацыю, бо адбываецца поўная дыскрэдытацыя дзяржаўных і судовых органаў».

Вярхоўны Суд павінен вызначыць дату чарговага судовага паседжання цягам двух месяцаў. Наша газета будзе сачыць за гэтай гісторыяй.

# З кватэры ў інтэрнат

**11 жыхароў дома №59 па вуліцы Ленінскай напісалі калектыўны зварот да Аляксандра Лукашэнкі.**

Яны лічаць, што толькі ён можа вырашыць іх пытанне, бо ўсе астатнія дзяржаўныя органы — мясцовыя выканкамы, КДБ, КГК, суды і пракуратура аказаліся абыякавымі да іх праблемы.

28 студзеня 2014 года падчас судовага пасяджэння дом №59 па вуліцы Ленінскай быў прызнаны аварыйным, а ўсе жыхары мусілі быць пераселеныя. Аднак грамадзян перасялілі не ў кватэры, а ў пакоі ў інтэрнаце. Паколькі іх аварыйны дом быў пазначаны як «інтэрнат». Ініцыяваў перасяленне Будаўнічы трэст №12. Выселеныя грамадзяне заяўляюць аб фальсіфікацыі дакументаў і вось ужо 11 месяцаў шукаюць праўду.

У свой час кватэры жыхарам дома мясцовы чыноўнікі прыватызаваць не далі, як і не выдавалі даведкі для будаўніцтва іншага жылля. У сувязі з тым, што дом меў патрэбу ў капітальным рамонце, жыльцам забаранілі прапісваць іншых грамадзян, кажа юрыстка незалежнага прафсаюза Радыёэлектроннай прамысловасці Алена Барысава.

Алена Барысава адзначае, што ў грамадзян ёсць на руках ордэры аб выдачы менавіта кватэр. Акрамя таго, з пісьмовых адказаў ЖКГ 2009 і 2013 года пазначана, што займаемыя людзьмі памяшканні з'яўляюцца кватэрамі. Камунальныя плацяжы на працягу ўсяго часу здзяйсняліся як за кватэры, а не інтэрнат. У дома вялася дамавая кніга, дзе пазначаліся звесткі аб прапісаных грамадзянах, а дамавыя кнігі выдаюцца толькі ўласнікам домавалодання. З грамадзянамі індывідуальна заключаны дамовы на пастаўку газа ў балонах і з РУП «Белтэлеком» на тэлефонныя лініі ў кватэрах. Подпісаў, узгадняючых гэта з камендантам інтэрната, няма, бо самога каменданта ў гэтым доме ніколі не было. Да з'яўлення экстраннай неабходнасці перасяліць грамадзян у іншае месца Будаўнічы трэст №12 прызнаваў правы за грамадзянамі на атрыманне кватэр. Гэта вынікае з адказу з гарвыканкама за 2007 год, дзе гутарка ідзе пра пошук інвестара для будаўніцтва новага дома на месцы існуючага і выдзялення жыхарам кватэр. І, нарэшце, у адпаведнасці з графікам прыёма-перадачы ва ўласнасць «Будаўнічы трэст №12» перадаў на баланс выканкама недобраўпарадкаваны дом, а не інтэрнат.

Але што цікава, на дадзены момант адміністрацыя інтэрната, куды перасялілі 11 жыхароў дома № 59, спрабуе заключыць з грамадзянамі тэрміновую дамову на пражыванне ў інтэрнаце тэрмінам на 5 гадоў. Пасля сканчэння гэтага тэрміну магілёўцы ўвогуле могуць апынуцца на вуліцы.

Дом перададзены на баланс Магілёўскага гарвыканкама, і грамадзяне лічаць, што на яго месцы хутка паўстане новы, бо месца на цэнтральнай вуліцы горада вельмі прыцягальнае для патэнцыйных інвестараў. Аднак ці атрымаюць яны кватэры — пытанне, на якое пакуль няма адказу.

**Паводле spring96.org**



# Журналісты ўсё яшчэ гінуць

Арцём ЛЯВА

**Якая сітуацыя са свабодай слова ва Украіне? Як працуецца там сродкам масавай інфармацыі і журналістам? На пытанні НЧ адказваюць прадстаўнікі грамадскага аб'яднання «Інстытут масавай інфармацыі» — выканаўчы дырэктар Аксана Раманюк, рэдактар сайта Кацярына Дзячук і журналіст-эксперт Раман Кабачый.**

***НЧ: Якія парушэнні свабоды СМІ характэрныя для сучаснай Украіны?***

***Аксана Раманюк:*** Асноўнае парушэнне ў сферы свабоды слова — фізічная агрэсія супраць журналістаў. Вертыкальнай агрэсіі зараз няма. Людзі, якія яе арганізоўвалі, з'ехалі ў Расію. Парушэнні сустракаюцца ва ўсіх рэгіёнах, але найбольш значны ўсплёск гвалту супраць журналістаў зафіксаваны сёлета на Усходзе Украіны і ў Крыме.

***НЧ: З якога боку зараз сыходзіць пагроза журналістам, СМІ наогул?***

***Кацярына Дзячук:*** Зараз гэта ў першую чаргу прыватныя асобы, потым — мясцовыя ўлады. У Луганскай і Данецкай абласцях былі зафіксаваныя шматлікія напады на офісы СМІ з боку сепаратыстаў.



Летась галоўнай праблема была цэнзура. Цэлыя калектывы звальняліся на знак пратэсту, калі алігарх Курчанка скупляў медыя-холдынгі. Потым пачаўся Майдан. На ім асноўнай крыніцай агрэсіі быў «Беркут», міліцыя. Пасля пачалася вайна і звязаныя з ёй выклікі.

Паглядзім, як будзе развівацца сітуацыя, але можна канстатаваць, што з боку ўладаў дасюль няма эфектыўнай рэакцыі на парушэнні правоў журналістаў. Няма пакарання вінаватых. Суды праходзяць у закрытым рэжыме. Напрыклад, такім быў суд над «цітушкамі», якія забілі журналіста Вячаслава Верэмія ў лютым на Майдане. Аднаго з саўдзельнікаў адпусцілі пад залог.

***НЧ: Якія выпадкі гвалту ў дачыненні да журналістаў вы фіксуеце?***

***Аксана Раманюк:*** У 2014 годзе сем журналістаў былі забітыя пры выкананні службовых абавязкаў. У лютым на Майдане «цітушкі» забілі ўкраінскага журналіста Вячаслава Верэмія. Акрамя яго сёлета загінулі італьянскі журналіст Андрэа Рыкелі і яго перакладчык Андрэй Міронаў, расійскія журналісты Антон Валошын, Ігар Карнялюк, Андрэй Стэнін, Анатоль Клян. Расійскія журналісты загінулі пры абстрэле на тэрыторыях, падкантрольных баевікам. Вялікае пытанне да рэдакцый, якія іх адпраўлялі. Для іх што — журналісты расходны матэрыял? Нашы спецслужбы (СБУ) адзначылі, што, на жаль, расійскія журналісты пранікалі на тэрыторыю Украіны незаконна разам з расійскімі войскамі...





Многія ўкраінскія журналісты былі паранены. Не так даўно, дарэчы, быў паранены ў грудзі ўкраінскі журналіст канала НІС-ТБ (Мікалаеў), але цудам выжыў.

Каля 80 журналістаў сёлета было захоплена ў палон. Усё пачалося з Крыма. Пасля яго анексіі пачалі знікаць журналісты. З красавіка практыка захопу журналістаў распаўсюдзілася на Данбас і Луганск. 270 журналістаў ад пачатку года зазналі напад і збіццё.

Зараз сітуацыя трохі нармалізавалася. У верасні мы зафіксавалі зніжэнне нападаў на журналістаў.

***НЧ: Што вы чакаеце ад уладаў?***

***Аксана Раманюк:*** Мы, як эксперты, пасля перамогі Майдану чакалі, што сітуацыя са свабодай СМІ істотна палепшыцца, улады будуць значна больш увагі надаваць абароне правоў журналістаў. Пакуль нашы чаканні не спраўдзіліся ў поўнай меры. Узровень беспакаранасці застаецца на вельмі высокім узроўні. І тыя напады, што працягваюцца, з'яўляюцца наступствам гэтай беспакаранасці.

Мы хочам, каб улады кожныя такія выпадкі эфектыўна расследавалі, каб суды праходзілі ў адкрытым рэжыме, каб вінаватыя былі знойдзеныя і пакараныя. Калі, да прыкладу, разгледзець справу аб забойстве Вячаслава Верэмія, самога забойцу, які страляў, пакуль не знайшлі, чалавека, які яго збіваў дручком, спачатку змясцілі пад хатні арышт, а потым вызвалілі пад залог, ён зараз свабодна гуляе па Кіеву.

***НЧ: На чым вы акцэнтавалі сваю дзейнасць падчас выбараў у Вярхоўную Раду?***

***Раман Кабачый:*** На выбарах мы арганізоўвалі «гарачую лінію» для журналістаў. Ажыццяўлялі маніторынг украінскіх СМІ, у тым ліку інтэрнэт-СМІ на прадмет наяўнасці замоўных матэрыялаў, якія мы называем «джынсай». Колькасць яе не зменшылася на парламенцкіх выбарах, але ёсць пазітыўная тэндэнцыя — эфектыўнасць яе ўздзеяння на людзей істотна ўпала. Так, лідар па колькасці «джынсы» Сяргей Цігіпка наогул не праходзіць у Раду. Людзі пачынаюць крытычна ацэньваць інфармацыю і разбірацца ў яе якасці.



***НЧ: Ці зазналі журналісты ціск альбо абмежаванні сваіх прафесійных правоў падчас выбараў у Вярхоўную Раду?***

***Раман Кабачый:*** Падчас выбараў былі выпадкі нядопуску на ўчасткі. У некаторых месцах забаранялі здымаць. Але нейкага сістэмнага ціску зараз няма. Гэта кропкавыя выпадкі. Дзесьці не дапускаў кандыдат і яго каманда (напрыклад, дзеючы дэпутат ад «Бацькаўшчыны» Юры Адарчанка з Херсону, у якога не зусім законным чынам вырваў перамогу прадстаўнік Блоку Парашэнкі). Дзесьці камісія была не вельмі абазнаная ў юрыдычных пытаннях.

***НЧ: Чаму, на вашу думку, створаны з аскепкаў Партыі рэгіёнаў прарасійскі «Апазіцыйны блок» набраў даволі вялікую колькасць галасоў?***

***Раман Кабачый:*** Народ расчараваны, па-першае, адсутнасцю хуткіх зменаў, па-другое, шмат дзе неставала поўнай інфармацыі для выбаршчыка. Ёсць частка людзей, якая не змяніла свайго меркавання пасля Майдану і драматычных падзей на Усходзе. Вось яны думаюць, што ў складзе Расіі будзе добра, і ўсё тут. Прычым такога меркавання часам трымаюцца нават, здавалася б, адукаваныя людзі. Журналістка са Старабешава, якую вясной сустрэў на семінары, гаварыла абсалютна «ватныя» рэчы: «Няма Януковіча, таму няма за каго галасаваць. Нас крыўдзілі і раз'ядноўвалі». Тое, што раз'ядноўвалі мясцовыя князькі, яна не разумее.

***Кацярына Дзячук:*** Апазіцыйны блок будаваў сваю кампанію на тым, што ён — голас Данбаса, што ён абаранае індустрыяльныя рэгіёны. Праводзіў вельмі папулісцкую кампанію пад лозунгам: «Уздымем пенсіі, заробкі».

***Раман Кабачый:*** Некаторыя рэгіяналы нават у Кіеве па мажарытарнай сістэме трапілі ў Раду за кошт подкупу выбарцаў і рассейвання электарату, калі на акрузе было некалькі прадстаўнікоў праўкраінскіх сілаў. Люстрацыя не закранула былых дэпутатаў (толькі чыноўнікаў, якія былі прызначаны), таму яны спакойна праводзяць кампанію, каб зноў трапіць у Раду.

Той жа рэгіянал Ківалаў, які прайшоў у Раду ў Адэсе. Журналісты нам сігналізавалі, што іх не пусцілі на спецучасткі ў шпіталях. Нібыта патрэбна дадатковая акрэдытацыя ў Мінабароны. Але з'явілася інсайдэрская інфармацыя пра тое, што туды пачалі завозіць лішнія бюлетэні. Мэр Адэсы Труханаў, таксама рэгіянал, усё гэта пакрываў.

***НЧ: Ці супрацоўнічаеце вы з беларускімі журналістамі?***

***Аксана Раманюк:*** Так. Мы вельмі ўдзячныя беларускім калегам за неабыякавасць да нашай краіны. У Чаркаскай вобласці двое вашых калегаў з «Белсату» асвятлялі мясцовы Майдан. Іх на вечар затрымалі міліцыянты, абсталяванне адабралі. Дагэтуль расследаванне працягваецца, дзе абсталяванне — невядома дасюль. Мы працягваем сачыць за гэтай гісторыяй. Нядаўна заязджалі беларускія журналісты з сайту «Штодзённік», ехалі на Усход. Мы іх экіпіравалі, выдалі бронекамізэлькі.

**Даведка:**

Грамадскае аб'яднанне «Інстытут масавай інфармацыі» (ІМІ) існуе з 1995 года. Асноўныя напрамкі дзейнасці: распрацоўка медыязаканадаўства і адсочванне яго выканання, юрыдычная падтрымка журналістаў у судовых справах. ІМІ таксама праводзіць маніторынг друкаваных СМІ на прадмет захавання журналісцкіх стандартаў, размяшчэння заказных матэрыялаў палітычнага і эканамічнага характару, гендарнага балансу і прысутнасці мужчын і жанчын у СМІ — як аўтараў матэрыялаў, экспертаў, герояў. ІМІ мае прадстаўнікоў у 15 абласцях Украіны, якія таксама займаюцца маніторынгам і складаюць барометр свабоды слова.

# «Я з’ехала з горада ў пошуках Беларусі і сябе»



Сяргей ЧЫГРЫН

**З маладой настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Дварэцкай сярэдняй школы Дзятлаўскага раёна Вікторыяй Воўкавай я пазнаёміўся ў Дзятлаве падчас адной літаратурнай імпрэзы ў раённай бібліятэцы.**

Вікторыя некалькі гадоў таму скончыла філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і прыехала працаваць у вёску Дварэц Дзятлаўскага раёна. Родам яна з Гродна, і лёгка магла застацца працаваць у сваім родным горадзе над Нёманам. Але маладая настаўніца выбрала глыбінку.

— На тое, каб з’ехаць з Гродна, я мела некалькі прычын. Найперш, я хацела стаць настаўніцай, але ў маім родным горадзе мая адукацыя і жаданне працаваць аказаліся нікому не патрэбныя. Праўда, мне прапанавалі на размеркаванні месца выхавальніка ў гродзенскім дзіцячым садку. Але я адмовілася і вырашыла, што лепш буду настаўніцай у сельскай школе. Сярод магчымых варыянтаў я выбрала месцам будучай працы Дзятлаўскі раён. Гэты раён быў і застаецца цікавы ў краязнаўчым плане. Справа ў тым, што пасля кніжнай універсітэцкай навукі мне хацелася дакрануцца да жывой гісторыі, рэшткі якой яшчэ засталіся ў беларускай вёсцы. Акрамя таго, мне было цікава вырваца з ужо звыклага кола паўсядзённасці. Я хацела пабачыць жыццё з іншых ракурсаў, атрымаць новы досвед, зірнуць на свет па-іншаму. Мэту свайго пераезду ў вёску я сфармулявала для самой сябе так: «Па Беларусь, па мову, па сябе». Так, я з’ехала з горада ў пошуках Беларусі і сябе ў ёй.

Застацца ў горадзе было б, безумоўна, прасцей. Але я ведала, што, каб не стаяць на месцы, трэба рашыцца на змены. І сёння, азіраючыся назад, я ніколькі не шкадую пра зроблены выбар.

***— І як працуецца сёння маладой настаўніцы ў вясковай школе?***

— Мне заўсёды было складана адназначна адказаць на пытанне, ці падабаецца мне працаваць у школе. Бывае, я натхнёна рыхтуюся да ўрокаў, шукаю цікавыя матэрыялы, прыдумваю пазакласныя мерапрыемствы. А бывае, хочацца паклаці на стол дырэктара заяву аб звальненні і больш не думаць і не чуць пра школу. У мяне часта пытаюцца, ці не складана мне з дзецьмі. На гэта я нязменна адказваю: з дзецьмі — нескладана, складана — з дарослымі. Я люблю сваіх вучняў і тыя справы, якімі мы разам займаемся, люблю і ведаю прадметы, якія выкладаю. Але ў сучаснай школе гэтага далёка недастаткова. Да настаўніка нярэдка даводзяцца абсурдныя патрабаванні, выкананне якіх, на мой погляд, зневажае прафесійную і чалавечую годнасць. Для таго ж, каб супрацьстаяць, каб застацца пры сваіх перакананнях і прынцыпах, неабходна мець цвёрдасць адстойваць сваю пазіцыю, не зважаючы на ціск з боку адміністрацыі і калегаў, ведаючы, што ўголас цябе не падтрымаюць нават тыя, хто ўвогуле поўнасцю падзяляе тваё меркаванне. Усё гэта вымагае вялікіх душэўных высілкаў, адбіраючы час і сілы на непасрэдную настаўніцкую працу. Але ад песімізму і адчаю ратуе адчуванне адказнасці перад вучнямі. І на пытанне, ці падабаецца мне мая праца ў школе, пасля нядоўгіх развагаў я ўсё ж адказваю: падабаецца. Мне падабаецца сутнасць настаўніцкай працы, тое, дзеля чаго я заканчвала ўніверсітэт і прыйшла ў школу. А на іншым я стараюся не засяроджвацца. Што да адрознення вясковай школы, вясковых вучняў і настаўнікаў ад гарадскіх, то я не бачу прынцыповай розніцы. Умовы для навучання ў нас не горшыя, чым у горадзе. А людзі ўсюды аднолькава розныя: і дзеці, і дарослыя. У кнізе Дэвіда Рэндала «Універсальны журналіст» мяне калісьці ўразіла тое, што аўтар дзеліць журналістаў толькі на добрых і дрэнных. Усё іншае не мае значэння. Я лічу, што гэтак жа і з настаўнікамі. Ёсць настаўнікі добрыя і дрэнныя. І гэта зусім не залежыць ад таго, працуюць яны ў вясковай школе ці ў гарадской. Кажу я гэта не галаслоўна. Мне ёсць з чым параўноўваць. Я сама вучылася ў гарадской гродзенскай школе. Па гэтай жа прычыне я лічу несправядлівым асобны конкурс для гарадскіх і сельскіх абітурыентаў. Пры наяўнасці здольнасцей і жадання можна паспяхова падрыхтавацца да ўступных іспытаў і ў вёсцы.

***— Як да роднай мовы і літаратуры ставяцца вашы вучні? Як яны і іх бацькі адносяцца да беларускаскасці ў цэлым?***

— Сваёй асноўнай мэтай як настаўніцы я лічу папулярызацыю беларускай мовы. Безумоўна, важна навучыць дзяцей правільна пісаць і разбірацца ў моўных нюансах. Але яшчэ важней дапамагчы вучням зразумець, што беларуская мова нічым не горшая за іншыя, што на ёй можна і неабходна свабодна размаўляць, што беларускамоўнасць — гэта прымета не вясковасці і адсталасці, а інтэлігентнасці, самапавагі і гонару. Калі я толькі прыйшла ў школу, многія са здзіўленнем успрымалі тое, што я заўсёды размаўляю па-беларуску. Але здзіўленне гэтае, як правіла, мела добразычлівую форму. Мне нярэдка задавалі пытанне: «Чаму?» Прычым нават вучні з тых класаў, у якіх я не працавала. Толькі аднойчы мне давялося паспрачацца з вучнем-васьмікласнікам, які ў даволі рэзкай форме назваў мяне «бэнээфаўкай». Наўрад ці гэтая думка з’явілася ў хлопчыка без уплыву кагосьці з дарослых. На жаль, у нашым грамадстве яшчэ не зніклі стэрэатыпы, паводле якіх беларуская мова аўтаматычна адносіць чалавека да пэўнай партыі ці сацыяльнай групы. Але мінуў час. Пасля таго выпадку прайшло амаль тры гады. Сёння мая беларуская мова не выклікае ні ў каго пытанняў. Усе звыкліся: і дзеці, і дарослыя. І ўжо ніхто не бачыць у гэтым ні палітыкі, якой і насамрэч тут не было і няма, ні чагосьці незвычайнага. І я лічу, што гэта добра. Каб зацікавіць вучняў і ўзбагаціць іх лексічны запас, да ўрокаў я імкнуся падабраць цікавы беларускамоўны матэрыял: словы для перакладу, песні сучасных выканаўцаў, урыўкі з мастацкіх фільмаў, рэкламныя відэаролікі.







У нас паспяхова два гады запар праходзіць Тыдзень беларускай мовы, прымеркаваны да Міжнароднага дня роднай мовы (21 лютага). На дзвярах кабінетаў і сценах разам з вучнямі мы развешваем карцінкі, выявы на якіх падпісаны беларускімі словамі. Яркія малюнкі прыцягваюць увагу не толькі дзяцей, але і дарослых. Усе з задавальненнем абмяркоўваюць не зусім звычайныя словы (напрыклад, басэтля, гмах, хмарачос, апалонік...), а таксама звычайныя, але падзабытыя (прас, кажан, касачы, патэльня...). У канцы Тыдня праводзіцца моўная гульня, у якой сярод іншых абавязкова сустракаюцца словы з карцінак.

Яшчэ я з’яўляюся адным з каардынатараў дзейнасці гісторыка-патрыятычнага клуба «Спадчына», якім кіруе цудоўная настаўніца Наталля Міхайлаўна Ляўкевіч. Мы з ёю цесна супрацоўнічаем.

Дзейнасць клуба «Спадчына» ўключае ў сябе розныя накірункі: краязнаўчы, літаратурны, экалагічны і іншыя. Вучні з радасцю ўключаюцца ў тыя справы, якія мы ім прапануем, а таксама прапануюць свае. Мы імкнёмся паказаць дзецям, якая неверагодна цікавая наша Беларусь, якая багатая яе культура і незвычайна гісторыя. А таму шмат падарожнічаем. Так, за мінулыя два гады мы наведалі Дзятлава, Ліду, Баранавічы, Мінск, Гродна, Нясвіж, Полацк, Навагрудак, Завоссе, Ракуцёўшчыну. Таксама перыядычна арганізуем паходы па навакольных вёсках, ходзім пешшу, ездзім на роварах. Размаўляем з людзьмі і запісваем успаміны, звяртаем увагу на мясцовыя асаблівасці. У межах экалагічнага кірунку штогод прымаем удзел у акцыях «Чысты лес», «Чысты бераг». Арганізуем збор выкарыстаных батарэек, каб пасля здаць іх для бяспечнай утылізацыі. Садзім дрэвы ў экасадзе, які створаны сябрамі клуба ўжо восем гадоў таму. Па ініцыятыве кіраўніцы клуба Наталлі Міхайлаўны вось ужо больш за дзесяць гадоў вядзецца праца па захаванні ўнікальнага мясцовага некропаля. Дзякуючы настаўніцы-патрыёткі, адноўлена фамільнае пахаванне шляхецкай сям’і Пратасевічаў, былых уладальнікаў зямель у ваколіцах Дварца. Адну з магілаў пачатку XX стагоддзя ўпрыгожвае скульптура «Самотны Анёл». Гэтая частка могілак ачышчана ад смецця і зарасніку, тут падняты паваленыя помнікі і адноўлены магілы. З вясны па восень мы разам з вучнямі садзім тут кветкі, паліваем у спёку, прыбіраем смецце.

***— Ці сумуеце вы па Гродна, па гарадской мітусні, па літаратурна-культурных тусоўках?***

— Напачатку, безумоўна, сумавала. Але зараз і сумаваць няма калі. Нягледзячы на тое, што нарадзілася я ў горадзе, мне камфортна жыць і ў Дварцы, які, як і Гродна, лічу сваім. Я люблю гэтае старажытнае мястэчка на Дзятлаўшчыне. Яно вабіць мяне сваімі яшчэ не да канца раскрытымі таямніцамі. Я збіраю па кавалачках яго мінулае, працую з архіўнымі матэрыяламі, гутару з жыхарамі. Вельмі люблю вандраваць па наваколлі. Шмат хаджу і езджу на ровары. Наведваю малыя вёсачкі, размаўляю з людзьмі, фатаграфую. Разам з працай гэта стала маім жыццём. Але і ад сучаснага свету я не адарваная. Сёння, дзякуючы інтэрнэту, можна быць у курсе падзей, нават жывучы ў вёсцы. Ды і ў Гродна я езджу даволі часта. Па магчымасці наведваю і найбольш цікавыя культурныя імпрэзы. А ў Дварцы імкнуся арганізаваць іх у школе сама.

Я не думаю, што застануся ў Дварцы назаўсёды. Жыццё чалавека дзеліцца на пэўныя перыяды, пасля заканчэння якіх трэба ісці далей. Але пакуль я не збіраюся пакідаць «ціхую вёску». Мяне трымае тут праца, якую я люблю, і справы, якія хачу давесці да канца. А з’еду я, калі адчую, што гэты перыяд майго жыцця ўжо завершаны, што я зрабіла ўжо ўсё, што магла.

TV

## 17 ЛІСТАПАДА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё».
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**12.10** Крымінальная меладрама «Здзіві мяне» (Расія).
**13.50, 15.50** Меладрама «Мой любімы геній» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Вялікая вайна.
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Справа прынцыпу».
**22.15** «Леон». Мастацкі фільм.
**00.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінштчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Вялікія таямніцы Сусвету».
**15.40** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Мінштчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Дзіўная справа».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Другі паўфінал.
**20.20** Фільм «Сотавы» (ЗША-Германія, 2004 г.).
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** «Ваенная таямніца».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.05** Тэлебарометр.
**10.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**11.10** Камедыйна-прыгодніцкі серыял «Мама - дэтэктыў» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**13.05** Фантастычна-прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**15.35** «Comedy Баттл. Без межаў» (Расія). Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**16.40** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** Кено.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**22.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2» (Расія - Украіна).
**23.50** Хачу ў тэлевізар!
**23.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.25** Камедыя «Хачу вашага мужа» (Расія).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Музычны скарб Беларусі».
**08.20** «Дыя@блог P.S.».
**08.45** «Чалавек на каленях». Крымінальная драма (Італія, 1979 г.).
**10.30** «Французскі матыў маэстра Косма». Дакументальны фільм пра аднаго з самых знакамітых і запатрабаваных кампазітараў сучаснасці Уладзіміра Косма.
**10.55** «Размаўляем па-беларуску».
**11.00** «Прададзены смех». Музычны фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1981 г.).
**13.15** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Прададзены смех».
**13.40** «Калейдаскоп».
**13.50** «Музычны скарб Беларусі».
**14.00** «Сябры». Гістарычная драма (СССР, 1939 г.).
**15.50** «Камертон». Піяніст Сяргей Тарасаў.
**16.15** «Плач перапёлкі». Ваенная драма. 5-я серыя (СССР, 1990 г.).
**17.20** «Дыя@блог P.S.».
**17.45** «Пікавая дама». Драма (СССР, 1982 г.).
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.20** «Музычны скарб Беларусі».
**19.30** «Севярына». Вестэрн (Германія, 1978 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.10** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**22.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.30** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**22.55** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Піт Паўлаў.
**00.40** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Енісей» (Краснаярск, Расія) - «Цмокі Мінск» (Беларусь).
**09.35** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Металург» (Жлобін) - «Шахцёр Салігорск».
**11.30** Тэніс. Кубак Паўлава. Адзіночны разрад. Жанчыны. Фінал.
**13.30** Тэніс. Кубак Паўлава. Парны разрад. Жанчыны. Фінал.
**15.35** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Рыга) - «Дынама» (Мінск).
**17.30** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - «Заграб» (Харватыя).
**18.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**19.25** Хакей. КХЛ. СКА (Санкт-Пецярбург) - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**21.45** Час футболу.
**22.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Сіці» - «Манчэстар Юнайтэд».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.35** Форум (ток-шоу): Незалежнасць – гэта...
**08.15** Два на два (тэледыскусія) Зміцер Лукашук і Аляксандр Папко: Сённяшняя Украіна вачыма беларусаў.
**08.50** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.25** «Mad Men. Утрапёныя-II», серыял.
**10.15** Дакументальная гадзіна: «Культуры супраціву», дак. фільм, 2010 г., ЗША.
**11.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.35** Два на два (тэледыскусія): Зміцер Лукашук і Аляксандр Папко: Сённяшняя Украіна вачыма беларусаў.
**12.10** Эксперт (сатырычная праграма).
**12.35** Зона «Свабоды».
**13.10** «Гётэ!», маст. фільм, 2010 г., Германія.
**14.55** Дакументальная гадзіна: «Культуры супраціву», дак. фільм, 2010 г., ЗША.
**15.40** «Mad Men. Утрапёныя-II», серыял.
**16.30** «Рука цырульніка», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**17.20** «Час гонару», серыял.
**18.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Форум (ток-шоу): Незалежнасць – гэта...
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Dэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.55** Асабісты капітал.
**22.15** Рэмарка (культурніцкая праграма): Нацыянальная тэатральная прэмія: хто атрымае ўзнагароду за найлепшую мужчынскую ролю?
**22.40** «Гётэ!», маст. фільм, 2010 г., Германія.
**00.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.40** Форум: Незалежнасць – гэта...
**01.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.55** Аб'ектыў.
**02.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**03.50** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**04.10** Рэмарка (культурніцкая праграма).

## 18 ЛІСТАПАДА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-3».
**16.40** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.15** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.45** Вечар цяжкага дня.
**00.35** Сфера інтарэсаў.
**01.10** Дзень спорту.
**01.25** Камедыйны серыял «Сваты-3».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**10.00** «Жыць здарова!».
**10.25** Кантрольная закупка.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Усмешка перасмешніка». Тэлесерыял.
**23.10** Мастацкі фільм «Сэрца анёла».
**01.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінштчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00, 13.50, 20.15** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Другі паўфінал.
**09.05** «Тыдзень спорту».
**09.35** «Такі лёс».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.55** СТВ прадстаўляе: «Спяваючыя гарады». Першы паўфінал.
**16.10** «Дарагая перадача».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Мінштчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.20** Фільм «Оскар» (Францыя, 1967 г.).
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Меч». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Кіпень.
**10.30** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2» (Расія - Украіна).
**11.40** Серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**12.40** Ікра.
**13.15** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**15.30** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**16.35** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.45** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.45** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**19.55** Футбол. Таварыскі матч. Беларусь - Мексіка. Прамая трансляцыя.
**21.55** Кено.
**22.00** Тэлебарометр.
**22.05** Серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**23.15** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2» (Расія - Украіна). Заключная серыя.
**00.15** Хачу ў тэлевізар!
**00.20** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.05** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.05** «Музычны скарб Беларусі».
**08.10** «Пікавая дама». Драма (СССР, 1982 г.).
**09.40** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.05** «Павадыр». Рамантычная меладрама (Беларусь, 2001 г.).
**11.35** «Легенды кіно». Гісторыя стварэння фільма «Павадыр».
**11.50** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Піт Паўлаў.
**12.30** «Навукаманія». Гарачая галіна.
**12.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці жывапісца Барыса Аракчэева.
**13.20** «Калейдаскоп».
**13.30** «Музычны скарб Беларусі».
**13.35** Канцэрт ансамбля «Сябры» у Лужніках.
**15.45** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**16.10** «Плач перапёлкі». Ваенная драма. 6-я серыя (СССР, 1990 г.).
**17.15** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**17.40** «Гусарская балада». Музычны фільм (СССР, 1962 г.).
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.20** «Музычны скарб Беларусі».
**19.30** «Людзі і манекены». Мініяцюры, інтэрмедыі і маналогі ў выкананні Аркадзя Райкіна і яго трупы. 1-я серыя (СССР, 1974 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Камедыя памылак». Камедыя паводле п'есы У. Шэкспіра. 1-я серыя (СССР, 1978 г.).
**22.05** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.30** «Камедыя памылак». Камедыя паводле п'есы У. Шэкспіра. 2-я серыя (СССР, 1978 г.).
**00.00** «Плач перапёлкі». Ваенная драма. 6-я серыя (СССР, 1990 г.).
**01.05** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Час футболу.
**08.40** Хакей. КХЛ. СКА (Санкт-Пецярбург) - «Дынама» (Мінск).
**10.30** Баскетбол. Еўрачэлендж. «Цмокі-Мінск» (Беларусь) - «Шаўляй» (Літва).
**12.05** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. ХК Віцебск - «Металург Жлобін».
**14.00** Футбол. ЧЕ-2016. Кваліфікацыя. Іспанія - Беларусь.
**15.50** Тэніс. Турнір ВТА. Токіо. Фінал.
**18.00** Спорт-кадр.
**18.25** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. ХК Гомель - «Шахцёр Салігорск». Прамая трансляцыя.
**20.40** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**21.10** Гандбол. ЧЕ-2016. Кваліфікацыя. Літва - Беларусь.
**22.55** Футбол. Таварыскі матч. Беларусь - Мексіка.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.15** Форум: Незалежнасць – гэта...
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.25** Асабісты капітал.
**10.45** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.10** «Зажмурся», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**12.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**12.55** Форум: Незалежнасць – гэта...
**13.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.10** Аб'ектыў.
**14.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**16.05** Асабісты капітал.
**16.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.55** «Час гонару», серыял.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Рамуальд Траўгут.
**18.00** Відзьмо-невідзьмо.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Суб'ектыў.
**19.00** Рэпартэр.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Два на два (тэледыскусія): Андрэй Хадановіч і Сяргей Ваганаў: Як бараніцца ад ваяўнічага «русского мира»?
**22.15** Без рэтушы: «Гарадок маладой Беларусі», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**22.30** Дакументальная гадзіна: «Культуры супраціву», дак. фільм, 2010 г., ЗША.
**23.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**23.50** Рэпартэр.
**00.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.50** Аб'ектыў.
**02.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.35** Два на два: Чаму беларусы пачынаюць выбіраць беларускае?
**03.05** Без рэтушы: «Гарадок маладой Беларусі», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.

TV

## 19 ЛІСТАПАДА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» .
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-3».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**01.05** Дзень спорту.
**01.15** Камедыйны серыял «Сваты-3».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Усмешка перасмешніка». Тэлесерыял.
**23.10** Легенды Live.
**23.50** «Іншы мужчына». Мастацкі фільм.
**01.30** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00, 13.50, 20.15** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Другі паўфінал.
**09.05** «Мінск і мінчане».
**09.35** «Цэнтральны рэгіён».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.55** Фільм «Оскар» (Францыя, 1967 г.).
**15.30** «Татальны распродаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.20** Фільм «Васількі для Васілісы» (Расія).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Сардэчна паскардзіцца».
**23.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.30** «Меч». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2» (Расія - Украіна). Заключная серыя.
**11.50** Серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**12.55** Вышэй за дах.
**13.30** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**14.40** Прэм'ера. Пазнавальна-забаўляльная праграма «Разбуральнікі міфаў» (ЗША).
**15.45** Рэпарцёр.
**16.35** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.45** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.45** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** Кено.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**22.50** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія). 1-я серыя.
**23.50** Хачу ў тэлевізар.
**23.55** Пазнавальна-забаўляльная праграма «Разбуральнікі міфаў» (ЗША).
**00.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Музычны скарб Беларусі».
**08.20** «Гусарская балада». Музычны фільм (СССР, 1962 г.).
**09.50** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.15** «Камедыя памылак». Камедыя паводле п'есы У.Шэкспіра. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1978 г.).
**12.20** «Размаўляем па-беларуску».
**12.25** «Свята далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Валерыя Раеўскага.
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.00** «Музычны скарб Беларусі».
**13.10** «Музеі Беларусі». Музей народнай архітэктуры і побыту.
**13.35** «Наперад у мінулае».
**14.05** «Размаўляем па-беларуску».
**14.10** «Збянтэжаны Саўка». Кароткаметражны фільм (СССР, 1970 г.).
**14.40** «У рэху імені твайго…» Анастасія Слуцкая.
**14.50** «Край чыстай вады». Дак.фільм аб прыродзе паўночнага захаду Беларусі.
**15.15** «Кніга лёсаў. Гаўрыіл Вашчанка. Такі, як ёсць». Дакументальны фільм.
**16.10** «Навукаманія». Гарачая галіна.
**16.35, 01.00** «Плач перапёлкі». Ваенная драма. 7-я серыя (СССР, 1990 г.).
**17.40** «Дыя@блог». «Пра мову».
**18.05** «Уладзімір Співакоў запрашае..» Оперны гала-канцэрт.
**19.20** «Калейдаскоп».
**19.30** «Музычны скарб Беларусі».
**19.40** «Экіпаж машыны баявой». Ваенная драма (СССР, 1983 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10, 23.05** «Загад: агонь не адкрываць». Ваенная драма (СССР, 1981 г.).
**22.40** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**00.30** «Свята далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Валерыя Раеўскага.
**02.05** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Тэхнічная прафілактыка.
**15.00** Хакей. КХЛ. «Йокерыт» (Фінляндыя) - «Дынама» (Мінск).
**16.55** Козел пра футбол.
**17.10** Рэаліці-шоу «Mix Fight. Новыя гарызонты».
**17.50** Гандбол. SEHA-ліга. «Веспрем» (Венгрыя) - БГК ім. Мяшкова Беларусь.
**19.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**20.15** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» (Беларусь) - «Зеніт» (Расія).
**22.00** Хакей. КХЛ. Медвешчак (Харватыя) - «Дынама» (Мінск, Беларусь). Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 08.00, 08.50, 12.35, 13.35, 14.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.30** Рэпартэр.
**08.30** Аб'ектыў.
**10.15** Два на два (тэледыскусія): Чаму беларусы пачынаюць выбіраць беларускае? Досвед культурніцкіх кампаніяў.
**10.45** Без рэтушы: «Гарадок маладой Беларусі», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**11.00** «Ранча», серыял.
**11.50** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**12.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.05** Рэпартэр.
**14.05** Аб'ектыў.
**15.50** Два на два (тэледыскусія): Чаму беларусы пачынаюць выбіраць беларускае? Досвед культурніцкіх кампаніяў.
**16.25** Без рэтушы: «Гарадок маладой Беларусі», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**16.40** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 3.
**17.15** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Стыль.
**18.55** Асабісты капітал.
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тадэвуш Касцюшка.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** 54 % (публіцыстычная праграма): Самамамы.
**22.30** «Лонданцы ІІ», серыял.
**23.15** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.10** Асабісты капітал.
**00.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тадэвуш Касцюшка.
**00.40** Аб'ектыў.
**01.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**03.20** 54 % (публіцыстычная праграма).

## 20 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-3».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Вечар цяжкага дня.
**00.40** Сфера інтарэсаў.
**01.15** Дзень спорту.
**01.25** Камедыйны серыял «Сваты-3».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Усмешка перасмешніка». Тэлесерыял.
**23.10** «На ноч гледзячы».
**00.10** «Ежа, дарога, рок-н-рол».
**00.00** «Бабёр». Мастацкі фільм.
**01.00** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**09.00, 13.50, 20.15** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Другі паўфінал.
**09.05** «Прыгоды дылетанта».
**09.40** «Гарачы лёд».
**10.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.55** Фільм «Васількі для Васілісы» (Расія, 2012 г.).
**15.50** «Дарагая перадача».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.20** Фільм «Каралева праклятых» (ЗША - Аўстралія, 2002 г.).
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Ганна Чапман і яе мужчыны».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Меч». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія). 1-я серыя.
**11.50** Серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**12.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.25** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**15.40** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**16.35** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.45** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.45** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** Кено.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**22.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія). 2-я серыя.
**23.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.25** «Халі-галі». Скетч-шоў.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.10** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Музычны скарб Беларусі».
**08.20** «Экіпаж машыны баявой». Ваенная драма (СССР, 1983 г.).
**09.20** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**09.50** «Загад: агонь не адкрываць». Ваенная драма (СССР, 1981 г.).
**12.40** «Размаўляем па-беларуску».
**12.45** «Свята далёкай зоркі». Памяці паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**13.15** «Калейдаскоп».
**13.25** «Музычны скарб Беларусі».
**13.35** «Летуценнік». Дак. фільм пра жыццё і творчасць пісьменніка Яна Баршчэўскага.
**14.00** «Славянскі базар-2010». Творчы вечар Раймонда Паўлса.
**15.15** «Наперад у мінулае».
**15.40** «Размаўляем па-беларуску».
**15.45** «Палёта вольное упорства». Дак. фільм пра выдатную балерыну Маю Плісецкую.
**16.10** «Запаведнай сцежкай». Заказнік «Карачэўскі мох».
**16.40** «Плач перапёлкі». Ваенная драма. 8-я серыя (СССР, 1990 г.).
**17.40** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**18.05** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**18.35** «Сіла веры».
**19.00** «Калейдаскоп».
**19.10** «Музычны скарб Беларусі».
**19.20** «Дама з сабачкам». Драма (СССР, 1960 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Трое ў лодцы, калі не лічыць сабаку». Музычная камедыя. 1-я серыя (СССР, 1979 г.).
**22.15** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.40** «Трое ў лодцы, калі не лічыць сабаку». Музычная камедыя. 2-я серыя (СССР, 1979 г.).
**23.45** «Свята далёкай зоркі». Памяці паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**00.10** «Плач перапёлкі». Ваенная драма. 8-я серыя (СССР, 1990 г.).
**01.15** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Рэаліці-шоу «Mix Fight. Новыя гарызонты».
**08.45** Хакей. КХЛ. Медвешчак (Харватыя) - «Дынама» (Мінск, Беларусь).
**10.40** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - «Вардар» (Македонія).
**12.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Зеніт» (Расія) - «Баер» (Германія).
**14.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Шахцёр» (Данецк) - БАТЭ (Беларусь).
**16.15** Тэніс. Турнір ВТА. Кубак Крамля. Фінал.
**19.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Баварыя» (Германія) - «Рома» (Італія).
**20.55** Рэаліці-шоу «Mix Fight. Новыя гарызонты».
**21.40** Авертайм.
**22.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Рэал» (Мадрыд) - «Ліверпуль» (Англія).

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 08.00, 08.50, 12.30, 13.30, 14.20, 00.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Асабісты капітал.
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тадэвуш Касцюшка.
**08.30** Аб'ектыў.
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** 54 % (публіцыстычная праграма).
**11.00** «Лонданцы ІІ», серыял.
**11.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Рамуальд Траўгут.
**11.55** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 3.
**13.00** Асабісты капітал.
**13.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тадэвуш Касцюшка.
**14.00** Аб'ектыў.
**15.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.10** 54 % (публіцыстычная праграма).
**16.35** «Ранча», серыял.
**17.25** «Лонданцы ІІ», серыял.
**18.10** Без рэтушы: «Гарадок маладой Беларусі», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Профіль пакалення.
**18.55** Два на два (тэледыскусія): Чаму беларусы пачынаюць выбіраць беларускае? Досвед культурніцкіх кампаніяў.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Рэпартэр.
**22.10** Відзьмо-невідзьмо.
**22.40** «Браты Клічко», дак. фільм, 2011 г., Германія.
**01.05** Два на два (тэледыскусія): Чаму беларусы пачынаюць выбіраць беларускае? Досвед культурніцкіх кампаніяў.

# Кавалачак маёй вайны

**Максім Козуб — камандзір узвода батальёна «Айдар». Прапануем вам яго аповед пра вайну, які запісала журналістка партала Цензор.НЕТ Віка Ясінская.**



**Калі б сепаратысты выйшлі з белым сцягам, здалі зброю і сказалі: «Усё, мы пайшлі араць зямлю», — я б сказаў: «Дзякуй Богу, хлопцы».**

Я прыехаў у батальён «Айдар» з пашпартам. Ваенны білет калісьці страціў. Праз 3–4 дні трэба было адправіць на перадавую ў Шчасце нейкую колькасць людзей, змяніць хлопцаў. Мы з'ездзілі на палігон, пабегалі, пастралялі, і па выніках адабралі тых, хто паедзе на фронт, а мяне прызначылі ўзводным і сказалі: «Вось твой узвод, вязі яго ў Шчасце». Пры тым, што ў мяне няма афіцэрскага звання. Я лічыўся Бог ведае кім, але амаль месяц быў камандзірам, да таго часу, пакуль мяне не паранілі.

Я — кіяўлянін. Калісьці ў далёкім мінулым я вучыўся на радыёфізічным, потым так атрымалася, што сышоў у права і быў юрысконсультам, журналістам, а апошнія 20 гадоў — я канферэнц-перакладчык.

Вядома, паміраць там нікому не хочацца, але ляціць «Град», і ты не думаеш у гэты момант: «Ой, гэта ж ляціць «Град», ён мяне можа забіць», — а хутка скачаш у бліндаж. Так і з куляй: свішча, думаеш: ага, адтуль прыляцела, значыць, на гэтым гарышчы можа быць снайпер, трэба туды выпусціць чаргу.

У мяне ва ўзводзе 26 чалавек. Адзінаццаць з іх — гэта хлопцы з Луганскай вобласці і Луганска. У кагосьці маці там засталася, у кагосьці жонка. Аднойчы тэлефануе адзін з байцоў у Каменны Брод сваёй жонцы і кажа: «Ты там не хвалюйся, мы хутка ўжо да вас дойдзем, вызвалім». Двухсотых у маім узводзе было двое: адзін 65-гадовы вечны добраахвотнік, вечны, таму што яго нават фармальна нельга залічыць у спісы часткі, — ён ужо ўсе ўзросты выйшаў, адстаўны афіцэр з сяла дзесьці паміж Марыупалем і Бярдзянскам, а другі — Сярожа Фёдараў, памёр у рэанімацыі ўжо тут, у кіеўскім шпіталі, ён з сяла Верхняя Пакроўка, Старабельскага раёна. Гэта значыць, яны абаранялі не проста тэрытарыяльную цэласнасць, а свае права, на сваёй зямлі спакойна жыць і на сваім камбайне працаваць, без усялякіх ЛНР, якія ім на фіг былі не патрэбныя.

Мой намеснік быў на зачысцы аднаго сяла, відавочна сепаратысцкага, калі вярнуўся, сказаў: «Вперше ў житті я йшов вулицею і відчував, шчо на мене дивляться, як на окупанта». А ў мяне была іншая сітуацыя: пры нас абстралялі «Градам» сяло, якое знаходзілася ў некалькіх кіламетрах ад Луганска і ў кіламетры ад нас, але яго абстралялі з боку ЛНР, там загарэліся дамы, і мы з некалькімі байцамі з майго ўзвода пайшлі паглядзець, ці ёсць параненыя, ці патрэбна «хуткая». Параненых, дзякуй Богу, не было, але была сям'я без даху ў прамым сэнсе, над галавой, яны сядзелі і плакалі. Мяне ўразіла, што сям'я досыць маладая — муж і жонка. Яны нас пачаставалі кіслым малаком і сталі распавядаць, што займаліся адкормам парсючкоў. У іх было 9 парсюкоў, а пасля папярэдняга абстрэлу — дзесьці за тыдзень да гэтага — засталося толькі двое. Таму што снарад уляцеў ледзь не ў кармушку. І жанчына кажа: «Калі ж гэтая вайна скончыцца», а я стаю побач з ёй, паказваю ў бок Луганска, які ў некалькіх кіламетрах, і кажу, што, напэўна, калі гэтых вырадкаў уймём, тады і скончыцца. А яна ў адказ: «Мачыце, хлопцы, мачыце іх, і як мага хутчэй».

Там — досыць шмат людзей, якія баяліся, што іх прымусяць гаварыць па-ўкраінску і гэтак далей, але яны зусім не чакалі таго, што гэтыя «ЛНР» і «ДНР» ім прынясуць.

Калі мы першы раз займалі Вергунскі раз'езд, там жа, у Вергунцы, затрымалі маладога сепаратыста, хлопца літаральна гадоў 24-х. Са зброяй у машыне і гэтак далей. Калі я яго ўбачыў, ён ляжаў на асфальце, а вакол былі байцы, якія досыць агрэсіўна на яго кінуліся — і мне давялося яго ратаваць, так бы мовіць. Калі мы з хлопцамі з майго ўзвода везлі яго ў нашай машыне ў кайданках на базу, адзін з нашых салдат, які родам з Луганскай вобласці, з ім паўдарогі размаўляў: «Што ж ты, дурань, пайшоў да сепаратыстаў? У мяне сын такі, як ты, чаму мой сын гэтай дурнотай не займаецца?» — яму сапраўды шкада яго стала. І дадаў: «Вось добра, што ты ў палон да нас трапіў, можа, возьмешся за галаву, а не загінеш за «ЛНР». Мы з ім цыгарэтамі дзяліліся, рукі развязвалі, каб мог папаліць. І я не ведаю наколькі шчыра, але ён, калі ўсё гэта паслухаў, сказаў нам, што мы людзі нармальныя, і калі б ведаў гэта раней, «у апалчэнне» не пайшоў бы.

Калі б сепаратысты выйшлі з белым сцягам, здалі зброю і сказалі: «Усё, мы пайшлі араць зямлю», — я б сказаў: «Дзякуй Богу, хлопцы».

Быў у мяне выпадак, калі я сапраўды паплакаў, адзін з моцных эмацыйных момантаў, я сам ад сябе не чакаў: ішоў па дарозе ў бок нашага блокпоста, а дарога такая прыфрантавая — ямы ад мін, ад «Граду». І насустрач едуць 3 ці 4 танкі. Сцяг наш, хлопцы на брані сядзяць і рукамі махаюць, я ім махаю ў адказ, хтосьці ўсміхаецца... А яшчэ ёсць такая традыцыя ў танкістаў — пампуюць кулямётам уверх-уніз, вітаюць так. Тады мабільным можна было карыстацца — і я жонку набраў, каб сказаць, што ўсё нармальна. Тэлефаную ёй, бачу гэтыя танкі, і мяне перапоўнілі пачуцці: едуць нашы хлопцы, у нас ёсць танкі, і мы хутка гэтую вайну скончым. І я проста ў трубку ўсхліпваць пачаў. Вось такі кавалачак маёй вайны.

У нас быў такі аднапалчанін Ілля Васілаш — адстаўны афіцэр, памежнік, за 50 гадоў ужо. Пазыўны — Дзед. Калі мы былі пад Металістам, ён прыходзіў да нас на пазіцыі, даводзілася мець зносіны часам. Потым у нейкі дзень прыходзіць нехта з нашых, а частка батальёна ў гэты час дзесьці ў іншым месцы ваявала, і кажа, што некалькі нашых загінула, і Дзед — таксама двухсоты. Шкада яго так стала — добры чалавек. Мы з хлопцамі 50 грам за спачын выпілі, а літаральна на наступны дзень, глядзім — Дзед зноў ідзе ў наш бок. У гэтым бардаку бывае, што дзесьці ў баі кагосьці збліталі або здалося, што загінуў. Мы ўзрадаваліся, сказалі, што цяпер праставіцца павінен за тое, што жывы. Пажартавалі, пагаварылі. А яшчэ праз дзень прыйшоў замротнага і сказаў, што Дзеда такі забілі. Я ўспомніў мінулы раз і спадзяваўся, што гэта зноў памылка. А аказалася праўдай.

Быў бы я пісьменнікам, апісаў б адчуванні, што гэта такое: пачуць, калі хтосьці загінуў, потым піць за яго на нейкай фанерцы, потым сустрэць яго жывым, абдымацца, і зноў — цяпер ужо напэўна — страціць яго. Расказаць нешта пра гэта можна, але як перадаць, якія пачуцці мы пры гэтым перажылі?

Я зараз мару, каб лепш сябе адчула мая любімая жонка. У яе не вельмі добра з нагамі цяпер. Калі мяне прывезлі ў Кіеў, Воля мяне ўбачыла дзесьці на 5-ы дзень, таму што ў яе да таго часу ногі не працавалі настолькі, што яна не магла прыехаць. Мы так і ляжалі ў розных месцах, думаючы адзін пра аднаго. Толькі на 5-ы дзень прыехаў мой калега, здаровы такі мужык з машынай. І Воля змагла, літаральна вісячы на яго плячы, дайсці ад дзвярэй кватэры да ліфта, спусціцца і потым тут дайсці ад машыны да лавачкі, каб мы з ёй, нарэшце, убачыліся.

**Пераклад НЧ**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нурсултан Назарбаеў



Прэзідэнта Казахстана не на жарт палохаюць перспектывы з'яўлення варыянтаў ДНР-ЛНР у паўночных рэгіёнах краіны, дзе шмат рускамоўнага насельніцтва і папулярныя лозунгі далучэння краю да Расіі. Упраўленне каардынацыі занятасці і сацыяльных праграм Усходне-Казахстанскай вобласці (найбольш рускамоўная вобласць Казахстана) апублікавала праграму па прыцягненні сюды працоўнай сілы з паўднёвых абласцей, дзе шмат этнічных казахаў. Асабліва запатрабаваныя на поўначы выкладчыкі гуманітарных прадметаў. Заробак для перасяленцаў дастаткова высокі для стандартаў жыцця на казахскім поўдні — каля 450 долараў штомесяц плюс забеспячэнне кватэрай і зямельным участкам. Усяго праграма разлічаная на тры гады. За гэты час плануецца перасяліць ва Усходне-Казахстанскую вобласць каля 740 чалавек разам з сем'ямі. Палітолагі скептычна ацэньваюць планы Астаны асіміляваць рэгіён. Па-першае, для гэтага трэба больш часу. Па-другое, жыхары поўдня нават на фоне высокага беспрацоўя надаюць перавагу эміграцыі ў Расію, дзе заробкі ў некалькі разоў вышэй.

### Рэджэп Эрдаган

Прэзідэнт Турцыі вырашыў пабудаваць новую рэзідэнцыю. Старая — пабудаваная ў цэнтры Анкары яшчэ ў часы Атацюрка — на думку Эрдагана, не адпавядае сучаснасці. Супольнасць у шоку ад праекта. У новай рэзідэнцыі будзе больш за



тысячу пакояў. А па плану сам комплекс у шэсць раз большы за комплекс Белага Дому ў Вашынгтоне. Відавочна, што кіраўнік краіны даўно вырашыў пабудаваць сабе жытло за кошт дзяржавы. Яшчэ ў часы свайго прэм'ерства ён прабіў праект будаўніцтва новай рэзідэнцыі кіраўніка ўраду, што каштавала бюджэту 615 мільёнаў долараў. Палац для прэм'ера, дарэчы, пачалі будаваць не так даўно. Самае цікавае, што гарант не хавае таго, што збіраецца задаволіць свае асабістыя капрызы за кошт дзяржавы, спасылаючыся на біяграфію Атацюрка — заснавальніка Турэцкай рэспублікі. Той у 1931 годзе дабіўся, каб дзяржава набыла для прэзідэнта (чытай для Атацюрка) самую шыкоўную яхту ў свеце, якую назвалі «Старая Турцыя».

### Кім Чын Ын



Цяжка сказаць, якая муха ўкусіла паўночна-карэйскага дыктатара, аднак яго ўрад пачаў прымяняць драконаўскія меры для таго, каб на тэрыторыю КНДР не трапіў вірус ліхаманкі Эбола. Так, калі верыць брытанскай прэсе, усім інтурыстам пасля прыбыцця ў краіну цяпер прыйдзецца спачатку пасядзець 21 дзень у каранціне. Прынятыя меры і супраць замежнікаў, што ўжо знаходзяцца ў КНДР. Так, грамадзяне з Паўднёвай Карэі, якія працуюць на сумесным карэйскім індустрыяльным комплексе «Kaesong», павінны штотыдзень праходзіць абследаванні на наяўнасць вірусу. Парадокс у тым, што ў ні ў Паўночнай Карэі, ні дзе-небудзь у Азіі дасюль не быў зафіксаваны ніводны выпадак ліхаманкі Эбола. Самая геаграфічна блізкая да Пхеньяна краіна, дзе хварэлі на Эболу, гэта Нігерыя. У сувязі з гэтым палітолагі не вераць у праўдзівасць прафілактычных мераў Пхеньяна і спрачаюцца, што на самай справе за ўсім гэтым стаіць. Пакуль адзіная больш-менш адэкватная версія — урад КНДР хоча абмежаваць гуманітарныя праграмы ААН, у рамках якіх у краіну трапляюць непажаданыя замежнікі.






Будынак станцыі Негарэлае

# Нам дапамагаюць нашы дзяды

Ганна МАТУСЕВІЧ

**Гарадскіх негарэльцаў мы, камароўскія засцянкоўцы, не любілі. Хадзілі яны, вялізныя, цыбатыя, шумныя, праз нашу Камароўшчыну ў наш лес па ягады, а мы, малеча, стаялі за варотамі і дражнілі іх: «Негарэлец уваліўся ў кубелец!» Прагаворыш — і драпака.**



**Зруйнаваны помнік Юзафу Абламовічу на старых Койданаўскіх могілках, заснаваных на пачатку XIX стагоддзя** (фота прадстаўлена аўтарам)

Негарэлае ў 1924 годзе зрабілі цэнтрам сельсавету, а ў 1938-м — пасёлкам гарадскога тыпу. Але тады ўсё было перакулена дагары нагамі, і гарадская Лена Дзядзюля плакала ад таго, што ў 5-м класе ёй давядзецца вучыцца з «деревенскими». Помню, што мы яе суцяшалі. У нас не было шляхецкай пыхі. Дык што ж засталося ад міцкевічавай Літвы ў засценку Камароўшчына?..

### «Яны былі ліхімі»

Бабуня Клементына збірала чараду ўнукаў і вяла нас па ягады, грыбы. У лес, як у Храм. Наказвала: не разыходзьцеся, каб не галёкаць! Галёкаюць чужыя. Бабуня не любіла пазбіркаў, ведала, дзе нерушы, імкнулася да іх: «Ганначка, паглядзі, якія кісты сядзяць, залезь ты пад куст — пазбірай!» Не любіла яна марнатраўства, абмінала прастагаліны з дробнымі ягадамі: «Хай пасядзяць, пабуйнеюць!»

Так падмурак закладваўся ў сям'і, у дзяржаве была інакшая стратэгія. Дзяржава ад слова «дзяржаць», не пушчаць, заганяць у стойла. Але каму патрэбны нявольнікі?..

Можа ў класе 3-м ці 4-м прыходзілі да нас, у Камароўскую школу, будучыя аднакласнікі з Негарэлага. Помню, што прыносілі яны агіткі з выявамі піянераў-герояў: Марата Казея, Мікалая Гойшыка, Зіны Партновай... А Васіль Аляксандравіч, наш настаўнік, маляваў чырвоным алоўкам плакат: «Чалавек чалавеку сябар, таварыш і брат». Такая была наглядная агітацыя.

Пасля мы пазнаёмімся бліжэй з тымі негарэльцамі. Яны былі ліхімі, хітрэйшымі ад нас і больш прыстасаванымі да жыцця ў дзяржаве. Гэта мы хадзілі за 3 кіламетры, нягледзячы на забарону, у 30-градусныя маразы да школы, а блізкія негарэльцы там не з'яўляліся. Яны скакалі па партах і біліся, мы паводзілі сябе спакайней. У дзяржаўнай школе яны ўжо ўведалі болей ад таго, што яшчэ давядзецца ўведаць нам.

### Негарэлае — Парыж

У апошнюю вайну Негарэлае было спалена немцамі. Згарэў і мураваны чырвоны трохпавярховы вакзал, якім надта казыралі бальшавікі; там быў «класавы парадак»: першы паверх для першае класы, другі — для другой, а на трэцім была рэстарацыя.

Чыгунку ў Негарэлым пракладалі яшчэ за царом, у 1871 годзе. Негарэлае — былая памежная станцыя, тут пачынаўся Савецкі Саюз. Адсюль хадзілі цягнікі Парыж — Негарэлае. Пасля 17 верасня 1939 года мая цёця Карольця, калі рабіла праваднiцай, вазіла ў Беласток матросаў-артыстаў, каб тыя песнямі абжывалі новыя прасторы. Гэта было найлепшае ў ейным жыцці, потым яно стала занепадаць усё болей і глыбей. У 1969 годзе Франак Петкавіч з Камароўшчыны напісаў «Баладу пра Негарэлае»:

*Свяціла сонца і не грэла,*
*І Негарэлае*
*гарэла.*
*З пажыткамі гарэлі хаты.*
*Крычалі людзі:*
*— Дзе ж нам жыць?!*
*Гарэла ўсё.*
*Фашысты-каты*
*Не падпускалі*
*патушыць.*
*А бомбы сыпаліся бобам —*
*Трашчалі нават камяні.*
*Крычаў фашыст:*
*— Усё да бога!*
*Дашчэнту*
*спалім*
*камунізм!*
*А «месершміты» кожным рэйсам*
*Падвозяць смерць,*
*трашчыць пажар...*
*Ды не згарэлі негарэльцы,*
*Чужынцаў моцны стрэў удар.*
*Такое не забудзеш скора,*
*Аб гэтым мусіш гаварыць...*
*Была тут пустка — зараз горад*
*Агнямі*
*па начах гарыць.*

Вось жа цяпер, праводзячы экскурсіі па Негарэлым, можна будзе прачытаць верш нашага паэта ды не цытаваць з «Памяці» радкі Маякоўскага: «На горизонте — белое. Снега и Негорелое... Голая, нищая бежит Белоруссия».

### Згарэў паэт

Перагортваючы падшыўку старых газет за люты 1970 года, знайшла астатні Франакаў верш. А ў 1971-м, на Пакровы, — помню, цёмнай-цёмнай парою — ён і сам згарэў з гарэлкі. Дык, можа, «Балада пра Негарэлае» была завершаннем, і ён тым сплаціў свайму краю?..

Мой тата (і ён ужо пераступіў зямную рысу, няхай ясна будзе яму!) казаў, што Франак пісаў словы да паланеза Агінскага. Можа і так, талент у яго адчуваецца, але які самотны, які трагічны бывае талент на зямлі... І, каб не заблудзіцца, ступаючы ў поцемках па зямлі, трэба мець добрага Водзцу. Таленту — асабліва. «Літаратура — гэта думка вольнага чалавека», — сказаў мой настаўнік Ян Пятроўскі. Ён жа вызнаваў і крэда літаратара: «Калі ёсць што сказаць, скажы і не хлусі; калі няма чаго — маўчы».

Я не знайшла Франака ў раёнках, што называліся тады «Сцягам Кастрычніка», а цяпер — «Узвышшам» ні за 1963–1964 гады, ні за 1971-ы. У пачатку было яму 24–25 гадоў, у канцы — 32. Можа ў 24-х ці 25-гадовым веку Франак скончаў факультэт журналістыкі БДУ, бо ў 1965 ён ужо працаваў настаўнікам Паланевіцкай 8-гадовай школы.

Думаецца, што юнацкія гады вучобы — найлепшыя гады, і для творчасці — таксама. Шкода, але я не ведаю тых вершаў і мусіць ніколі ўжо не ўведаю... Магу толькі ўявіць, якія яны былі, вось па гэтым вершы «Погляд каханай», напісаным у 1966 годзе:

*А ты й не ведаеш,*
*Колькі ў вачох тваіх ласкі.*
*Падарыў мне, каханая,*
*Позірк ледзь-ледзь даўжэйшы.*
*Я гляджу ў твае вочы,*
*Чыстыя, як вочы ластаўкі, —*
*І прападае сум,*
*І я станаўлюся дужэйшы.*

Адзіны гэты верш — чысты, як ластаўчыны вочы, на ўсіх астатніх ляжыць цень змрочнага часу, у якім ён мусіў жыць. Франак быў жанаты, засталіся ў яго дзве дачкі, але, каб сталася гэтая каханая ягонай жонкай, можа, не адбылася б трагедыя 1971-га... У тым часе працягвалася вайна, дзе скрозь гэтыя «фашысты-каты» сыплюць бомбы ды мараты казеі сядзяць у засадзе. Не скончылася і рэвалюцыя, хоць і хаваюць «цела дзеда-леніна», ды «жывыя ленінцаў нашчадкі» клянуцца, што «не забудуць спраў дзядоў». І край наш увесь у няволі падманных камуністычных спаборніцтваў, дзе нават прыгожыя дзяўчаты-ткачыхі за абяцанку зораў і неба змушаныя даваць тыя «нормы».

### Бульдозерам па магілках

«Быў край наш нібы лагерам калоднікаў», — напіша Франак у вершы «Радзіма» нібыта пра даўнейшы час, а папраўдзе — пра свой, пра тыя нэндзныя 1950–1960-я, тыя ўдушлівыя, як пятля, 1970-я, дый пра цяперашні час, у каторым жывем мы. Наш час папраўдзе жудасны, бо колішняе панаванне д'ябла ў «Сцягу Кастрычніка», ва «Узвышшы» змянілася нятаймоўным баляваннем... ці не прад апошняй Атлантыдай...

Вынішчаны ўжо ўсе жывыя душы нашай нацы, цяпер дабраліся да старых могілкаў, вынішчаюць парэшткі культуры нашай. А святары, тыя, хто даўней апекаваліся могілкамі, цяпер адкараскаліся ад сваіх абавязкаў. Андрэй Бараноўскі, ініцыятыўны чалавек у Койданаве, дзе руйнуюць старыя могілкі, абыходзіў людзей, каб сабраць подпісы нязгодных. Зайшоў да ксяндза, а той адказаў, што ён «innego pacstwa», спрабаваў зайсці да бацюшкі, а той і на парог Андрэя нават не пусціў. Меў рацыю Ян Пятроўскі, калі яшчэ напачатку 1960-х напісаў: «Літва — твая загуба ў Рыме!»

Тыя, хто павінны былі пільнаваць чысціню навукі Пана Езуса, сказілі яе. Мы страцілі сваю Айчыну, таму што не мелі святароў, якія б дбалі пра Культуру. Тое, што засталося з навукі Пана Езуса, перахоўваюць носьбіты з простага народу. Сэрца ведае гэтую навуку, яна простая. Ведала сэрца цёці Эмці, што гэтак пакутавала за Франака, і ведаюць сэрцы ўсіх матак, што пакутуюць за сваіх дзяцей.

Выглядае, што і сёння мы не маем святароў, што баранілі б нашу культуру...

### Разбураны помнік

Заўтра мая добрая знаёмая Вераніка збіраецца ісці на старыя койданаўскія могілкі, каб ўратаваць ад знішчэння вялікі мармуровы помнік па Юзафу Абламовічу, доктару медыцыны Віленскага ўніверсітэта, уладальніку маёнткаў у Мікулічах і Негарэлым.

Пасля паразы лістападаўскага паўстання графства Радзівілаў (Койданаў, Негарэлае і далей) трапіла ў казну. Потым Негарэлае і Мікулічы выкупіў Юзаф Абламовіч. У тастаманце ён запавядаў зямлю дачцэ, таксама — пабудаваць капліцу пры бальшаку з цяперашняга пасёлку Энергетыкаў да Мелькавічаў (завём Мелькаўскі бальшак) і пахаваць яго там. Мусіць, тое было невыканальным з прычыны паразы паўстання, таму Юзаф Абламовіч быў пахаваны ў Койданаве.

Частка старых койданаўскіх могілак ужо даўненька пахавана пад асфальтам. Цяпер тутэйшыя ўлады ўздыбілі ўсё мястэчка, як перад Дажынкамі! Нібыта парадак рабіць на запушчаных імі ж могілках. Дзеля гэтага павалілі крыжы, помнікі, агароджы, бульдозерам узадралі зямлю. Папраўдзе, тут патрэбна шырокае грамадскае абмеркаванне; свой голас павінны падаць навукоўцы, рэлігійныя і творчыя людзі. Што рабіць са старымі могілкамі? Тым часам пакуль народ наш спіць, начальства загадала зрабіць прыпынак для грамадскага транспарту, зноўтакі ўрэзаўшы частку могілкаў, што зусім блізка ад помніка Юзафу Абламовічу... Што ім да нашае гісторыі, нашае памяці, славы нашае?!

«Я — грамадзянін Сусвету», — казаў Ян Пятроўскі. Адчыньма і пашырма сваю сведамасць, разнявольма Думку! Мы не самотныя, і мы пераможам, бо з Неба, з усяго Сусвету за намі назіраюць і нам дапамагаюць нашы Дзяды.



Сяргей ЧЫГРЫН

# Выдатны дырыжор і кампазітар

**Пра жыццё і лёс братоў Кіслых можна напісаць цікавую кнігу. Але найбольш яркай асобай сярод іх быў Кастусь Кіслы.**

Нарадзіўся Кастусь Кіслы 21 траўня 1898 года ў беларускай праваслаўнай сям'і. Месца нараджэння Кастуся падаецца па-рознаму: нехта піша, што ён нарадзіўся ў мясцовасці Лянчыцы Лянчыцкага павета, нехта — на Беласточчыне, а па іншых крыніцах — на Слонімшчыне, адкуль быў родам яго бацька. Але пачатковую адукацыю Кастусь атрымаў у горадзе Каліш.

З пачаткам Першай сусветнай вайны разам з бацькамі Кастусь эвакуяваўся ў Марыупаль, дзе паступіў у мясцовую настаўніцкую семінарыю. На занятках у прафесара музыкі кампазітара Салаўёва ў беларускага хлопца былі выяўлены музычныя здольнасці. Таму ў сувязі з мабілізацыяй у войска выкладчыка музыкі, кіраўніцтвам семінарыі ў 1918 годзе Кастусь Кіслы быў прызначаны выкладчыкам спеваў і кіраўніком хору ў настаўніцкай семінарыі. На першым канцэрце хор пад кіраўніцтвам маладога дырыжора Кіслага выканаў і дзве беларускія песні «Чаму ж мне не пець» і «Ці свет, ці світае».

Пачатак грамадзянскай вайны ў Расіі і ваенныя дзеянні закінулі сям'ю Кіслых аж но ў Турцыю, дзе яна жыла ў мясцовасці Сан-Стэфана недалёка ад Канстанцінопаля.

У 1921 годзе Кіслыя вярнуліся ў Беларусь, на радзіму бацькі ў Слонім. Тут Кастусь уладкаваўся на працу ў Спаса-Праабражэнскі сабор, дзе арганізаваў царкоўны хор, а пры Народным доме — свецкі агульны хор. Царкоўны хор Кіслага заўсёды запрашалі на святую літургію 20 траўня ў Жыровічы, бо Жыровіцкі прыманастырскі хор быў слабейшы.

У 1932 годзе Кастусь Кіслы прыехаў у Беласток, дзе пры саборы Святога Мікалая ён арганізаваў школьны царкоўны хор, а таксама хор пры Таварыстве беларускай школы (ТБШ). Ён актыўна прапагандаваў беларускае слова, культуру, музыку. Яго калектывы выступалі з беларускімі канцэртамі па ўсёй Беласточчыне. Гэта не падабалася савецкай уладзе. Таму пасля верасня 1939-га Кастуся Кіслага арыштавалі. Але з прыходам немцаў, Кастусь выйшаў на волю.



Кастусь Кіслы з жонкай Кацярынай і дачкой Галінай у Слоніме, канец 1920-х гадоў



Кастусь Кіслы (сядзіць злева) з беларускімі дзеячамі на эміграцыі

У гэты час у Беластоку кіпела беларускае жыццё. Хведар Ільяшэвіч, Масей Сяднёў і Уладзімір Тамашчык стварылі там Беларускі камітэт, наладзілі выпуск газеты «Новая дарога». Да іх далучыўся і Кастусь Кіслы. Ён аднавіў свой хор, актыўна выступаў з канцэртамі. А хутка арганізаваў ансамбль беларускай песні і танца, які выступаў па ўсёй Беласточчыне.

У чэрвені 1944 года Кастусь Кіслы выехаў у Германію, а праз некалькі гадоў пераехаў у Бельгію. Жылося там нялёгка, а працавалася ў шахце яшчэ цяжэй. У 1953 годзе ў Лювэне памёр беларускі кампазітар і хормайстар Мікола Равенскі, які кіраваў там студэнцкім ансамблем беларускай песні і танца. Для беларускай моладзі ў Бельгіі гэта была вялікая страта. Але хутка месца Равенскага заняў Кастусь Кіслы. Ён вельмі шчыра і шмат працаваў з ансамблем, папулярызаваў беларускую песню ў Еўропе. Выступаў з канцэртамі ў Лондане, Кёльне, Брусэлі, Боне, Парыжы.



Кастусь Кіслы (злева) з сям'ёй і роднымі братамі, 1930-я гады



Галіна Кіслая чытае беларускую прэсу. Беласток, 2008 г.

З траўня 1956 года Кастусь Кіслы жыў у Кліўлендзе (ЗША). Тут таксама не быў убаку ад беларускіх справаў. Ён кіраваў хорам моладзі ў Кліўлендзе, іншымі свецкімі і царкоўнымі калектывамі. Пад яго кіраўніцтвам беларускі хор моладзі быў пераўтвораны ў жаночы ансамбль «Васількі». Кастусь Кіслы напісаў дзесяткі твораў царкоўнага ўжытку, выкарыстоўваючы ў сваёй творчасці багатыя традыцыі беларускай царкоўнай музыкі. Ён умела кампанаваў царкоўную музыку, выдаў нават музычны зборнік «Вялікдзень».

На працягу некалькі апошніх гадоў свайго жыцця наш зямляк моцна хварэў. У канцы 1979 года з ЗША яго забрала дачка Галіна і прывезла ў Беласток, дзе 8 студзеня 1980 года Кастуся Кіслага не стала. Яго пахавалі на праваслаўных могілках у Беластоку-Выгодзе.

Я шмат часу шукаў на Беласточчыне дачку Кастуся Кіслага Галіну. І, дзякуючы журналістам беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку, мне ўдалося з ёй сустрэцца і пагутарыць. Гэта было ў 2008 годзе. Я прасіў яе ўдакладніць і дапоўніць звесткі пра яе бацьку і іх сям'ю.

— Я з вялікім задавальненнем гэта пастараюся зрабіць, але майце на ўвазе, што я маю ўжо шмат гадоў і не ўсё памятаю, а некаторыя дэталі, факты, лічбы, наогул, магу пераблытаць, — распавяла Галіна Кіслая. — Я нарадзілася ў 1927 годзе ў Слоніме. У Слоніме нарадзілася і мая старэйшая сястра Жэня, яна была з 1922 года. Жэня ўжо памерла і пахавана на праваслаўных могілках на Выгодзе ў Беластоку побач з мамай і татам. Там захоўваецца месца і для мяне. Са Слонімшчыны родам была і мая мама Лізавета Кіслая. А тата нарадзіўся ў Польшчы. Мама з татам пазнаёміліся ў Слоніме падчас наведвання царкоўнага хору. Яны ўсё сваё жыццё наведвалі праваслаўныя хоры, там спявалі, арганізоўвалі гэтыя хоры, тата пісаў музыку да царкоўных тэкстаў. І я да сённяшніх дзён рэгулярна хаджу ў Беластоцкі праваслаўны сабор святога Мікалая і спяваю ў хоры.

У 1932 годзе мы прыехалі ў Беласток, мне тады было толькі пяць гадоў. І з таго часу я ніколі больш у Слоніме не была, таму амаль нічога пра слонімскае жыццё не памятаю. У Беластоку мы жылі на кватэры на вуліцы Слонімскай, 28, а цяпер я жыву на Навагрудскай вуліцы. Як бачыце, мяне, праваслаўную беларуску, Беларусь ад сябе ніколі не адпускала.

Бацька мой працаваў у адной страхавой кампаніі. Там пэўны час працавала і мама. Тата быў вельмі адукаваным чалавекам. Але больш за ўсё ён любіў царкву і царкоўную музыку.

Тата ніколі не займаўся палітыкай, ён любіў музыку, ён быў добрым спецыялістам па арганізацыі царкоўных і свецкіх хароў, але адразу пасля вайны за ім пачалі сачыць савецкія спецслужбы, і праз пэўны час бацьку маглі б арыштаваць. Каб выратавацца ад арышту, у сям'і было вырашана, каб тата пакінуў Беласток і выехаў тэрмінова ў Германію. Што ён і зрабіў. А з Германіі яго шлях ляжаў у Бельгію і ЗША. Некалькі гадоў мы пра тату нічога не чулі, думалі, што ён дзесьці загінуў. Пасля, я не памятаю, нехта нам паведаміў, што Кастусь Кіслы жыве ў Амерыцы. Потым нам перадалі яго адрас, і мы пачалі з ім перапісвацца. А праз пэўны час я наведала яго ў ЗША. Запрашала прыехаць да нас у Беласток, але ён усё баяўся, каб не арыштавалі. Але пасля вайны тата да нас прыязджаў адзін раз у Беласток, трохі жыў з намі.

Я жыла ў Беластоку з мамай і сястрой. Сястра Жэня выйшла замуж, мела двух сыноў. Была ў нас і яшчэ адна сярэдняя сястра, але яна маленькая памерла і пахавана ў Слоніме. Мама пасля вайны прыязджала адзін раз у Слонім на магілку нашай сястры. А больш у Слоніме не была. Што датычыць мяне, дык я жыву адна. Выкладала ў пачатковай школе фізкультуру і вяла секцыю па гімнастыцы, бо сама ў маладыя гады займалася гімнастыкай. Вучні мае ўдзельнічалі ў многіх спартыўных спаборніцтвах па гімнастыцы, прывозілі дыпломы і граматы.

— А што вы ведаеце пра сваіх родных дзядзькаў, я маю на ўвазе, Аляксандра і яшчэ аднаго роднага брата вашага таты? У гады вайны Аляксандр Кіслы быў бургамістрам Слоніма.

— Пра аднаго дзядзьку я нічога не ведаю. А дзядзька Аляксандр пасля вайны жыў у Аўстраліі, быў жанаты, меў сына і дачку. Але з імі я сувязей не маю, магчыма ў гэтым вінавата адлегласць, бо да Аўстраліі ўсё ж вельмі далёка, і нам сустрэцца ў жыцці не давялося, хаця з дзядзькам мы перапісваліся і з імі падтрымлівау сувязі мой бацька. І калі ён жыў у нас, то вельмі часта згадваў сваіх родных братоў. А перад самай вайною мы ў іх гасцілі, здаецца, гэта было ў Вільні.

— Калі памерла ваша мама?

— Мама памерла пазней за бацьку. Хачу сказаць, што яны ніколі не сварыліся, мусіць, усё жыццё моцна кахалі адзін аднаго, хоць пражылі большую палову свайго жыцця ў ростані.

— Ці маеце ў сваім хатнім архіве музычны зборнічак вашага бацькі, які называецца «Вялікдзень»?

— Не, не маю. Толькі ёсць фотаздымкі, хаця і на фотаздымках я не ўсіх ведаю, дый і многіх не памятаю.

— Што сёння часцей за ўсё згадваецца, аб чым думаецца?

— Хочацца яшчэ трохі пажыць. А душу я сваю ратую царквою, калі прыходжу туды на богаслужэнні і ў царкоўны хор. Хаця, шчыра скажу, старому чалавеку жыць ужо сумна.

# Дзвіна ўпадае ў Даўгаву

## Анталогія латвійскай паэзіі

Ева ВАЙТОЎСКАЯ

**Пагайдацца на хвалях балтыйскай паэзіі мелі магчымасць тыя, хто 6 лістапада завітаў у мінскі Дом Дружбы. Там у прыязнай атмасферы і пры ўдзеле пасла Латвіі ў Беларусі Міхаіла Попкаўса, дыпламатаў ды творчай інтэлігенцыі прайшла прэзентацыя анталогіі сучаснай латвійскай паэзіі ў перакладах на беларускую мову.**

### «Перакладала душа мая...»

Узаемапераклады — асобная тэма ў літаратурах народаў былога СССР. Шмат энергіі, паперы і друкарскай фарбы пайшло свайго часу на міжнацыянальнае сяброўства. Злыя языкі сцвярджаюць, што казахі перакладалі грузінаў, а грузіны — эстонцаў толькі па разнарадцы Масквы, дбаючы найперш пра ганарары і камандзіроўкі, а не пра краснае пісьменства. Расказваюць смешныя показкі, найперш пра рускіх савецкіх перакладчыкаў, якія браліся пераствараць творы, напісаныя на беларускай мове, абсалютна яе не ведаючы. Паводле гэтых показак, сказ «У канюшыне стракаталі конікі» аднойчы пераклалі як «В конюшне ржали лошади». А назву рамана Івана Мележа «Подых навальніцы» — як «Смерть рабыни».

Можа, яно і так, але, калі пачынаеш прыглядацца да гісторыі беларуска-латышскіх узаемаперакладаў, усё выглядае абсалютна іначай. Адчуваецца, што паэты Беларусі і Латвіі, хоць і былі звязаныя партыйнай разнарадкай, але абсалютна шчыра цікавіліся творамі адно аднаго. Па сведчаннях старшыні таварыства «Беларусь — Латвія» Сяргея Панізніка, творчыя кантакты завязаліся адразу напачатку 1940 года, пасля далучэння Латвіі да СССР (назавём гэта далучэннем). Менавіта тады ў Мінск прыязджаў Яніс Райніс, тады адбылося яго знаёмства з Янкам Купалам. У адказ Купала, Броўка і Лынькоў наведалі І з'езд пісьменнікаў Латвіі ў Рызе...

Літаратурныя сувязі ўзнавіліся пасля вайны. Латышскіх паэтаў шмат і ахвотна перакладалі Артур Вольскі, Рыгор Барадулін, Сяргей Панізнік, Максім Танк і многія іншыя нашы класікі і сучаснікі. Адметна, што перакладчык Гётэ, Гофмана і Гамбровіча Васіль Сёмуха сваім самым любімым дасягненнем называе пераклады з латышскай: «Паэзію Візмы Бэлшавіцы перакладала душа мая, можа, якраз таму — гэта самае любімае з усяго перакладзенага мною на родную мову душы і сэрца...»

Новае пацверджанне невыпадковасці беларуска-латышскіх літаратурных сувязяў — «Анталогія латвійскай паэзіі». Яна з'явілася ў выніку кантактаў ужо найноўшых літаратурных пакаленняў Беларусі і Латвіі і збірае вершы аўтараў апошняй чвэрці стагоддзя ў латвійскай літаратуры.

### Падзяка за Вентспілс

Паводле выдаўца анталогіі — пісьменніка Змітра Вішнёва, ідэя выдання належыць яму і рыжскаму паэту Сяргею Марэйну. Падчас прэзентацыі Вішнёў жартам назваў зборнік «падзякай беларускіх паэтаў латвійскім калегам за Вентспілс». У прыморскім Вентспілсе ўжо не першы год працуе літаратурны дом, які запрашае паэтаў з Беларусі на творчыя адпачынкі. Многія з перакладчыкаў анталогіі былі гасцямі гэтага дому. Перакладчыкі анталогіі — гэта Вольга Гапеева, Арцём Кавалеўскі, Ірына Хадарэнка, Павал Надольскі, Альгерд Бахарэвіч, Зміцер Вішнёў.

Адметнасць новага паэтычнага зборніка ў тым, што з 10 аўтараў, якія ў яе ўвайшлі, пяцёра пішуць на латышскай мове, а пяцёра — на рускай. Менавіта таму ў назве анталогіі фігуруе слова «латвійскі», якое адсылае не да этнасу — латышы, а да дзяржавы — Латвія. І сапраўды: было б несправядліва праігнараваць магутную і цікавую рускамоўную паэтычную школу краіны-суседкі. Яна пачала складацца напрыканцы 1980-х гадоў вакол знакамітага на ўвесь СССР часопіса «Родник» — і паспяхова існуе да сёння. Рускамоўныя героі анталогіі — Сямён Ханін, Сяргей Цімафееў ды іншыя даўно і плённа перакладаюць сваіх калег, якія пішуць па-латышску, на рускую мову, прэзентуюць іх вершы ў рускамоўным свеце.

Як не без гонару падкрэсліваюць беларускія перакладчыкі, пераклад на беларускую мову згладзіў адрозненні паміж рознамоўнымі аўтарамі адной краіны. Уласна, чытаючы іх вершы па-беларуску, адчуваеш, што гэта — прадстаўнікі адной краіны. Заўважна: рускамоўныя паэты Латвіі даўно адышлі ад паэтычных традыцый Расіі. З метраполіяй іх лучыць толькі мова.

### Па-еўрапейску, без мішуры

Чытаючы Майру Асарэ, Оярса Вацыецыса або Аляксея Іўлева — адчуваеш: перад табой еўрапейская паэзія, з яе ўвагай да дэталяў, з яе філасофіяй, з яе эканоміяй словаў і яснасцю метафар. У параўнанні з нашай, славянскай — гэта як лаканічны скандынаўскі інтэр'ер супраць бляску і пазалоты пампезных апартаментаў, якія атрымліваюцца ў многіх беларусаў пасля «еўрарамонту» хрушчовак. Вось і беларуская паэзія шмат у чым іншая. І анталогія выдавецтва «Галіяфы» — гэта своеасаблівае запрашэнне параўнаць, супаставіць. Магчыма, нават нечым натхніцца. Ці не для таго паўстаюць пераклады?

У гэткім жа стрыманым, балтыйска-скандынаўскім стылі прайшла і сама прэзентацыя анталогіі. Яе адзіным — і вялізным — недахопам было тое, што па розных паважных прычынах ніводзін з латвійскіх аўтараў да Мінску так і не даехаў. Затое іх вершы — без доўгіх прамоваў, па адным — прадставілі ўсе перакладчыкі зборніка. Таксама беларусаў прывіталі надзвычайны і паўнамоцны пасол Латвіі ў Беларусі і жывы класік латышскай паэзіі Улдыс Бэрзыньш, які ў прамове, прачытанай па-беларуску, назваў сябе «нацыяналістам усіх нацый» — гэта значыць, інтэрнацыяналістам... Дарэчы дадаць, што ў мінулым годзе ў выдавецтве «Кнігазбор» выйшаў зборнік У. Бэрзыньша «Салаўі крычаць, я па-латышску...» Сёлета яго перакладчыкі — Алесь Разанаў і Андрэй Гуцаў — намінаваныя на прэмію часопіса «ПрайдзіСвет» у галіне паэзіі.

Плённы год для паэтаў Латвіі ў Беларусі. І, ёсць падазрэнне, — усё толькі пачынаецца. Заставаймася ў кантэксце.




***

*Я не ведаю, дзе ты жывеш,*
*Я не ведаю, ці жывеш ты.*
*Такая спякота,*
*Што паволі закіпаюць бэзы,*
*Аплываюць свечкі каштанаў,*
*і акацыя*
*вызалаціла тратуар.*
*І скрозь чад адцвітання*
*я не ўспрымаю знак,*
*што ты мяне чуеш,*
*што адчуваеш,*
*як нехта ўглядаецца ў цябе так*
*пільна, што трэба ўскокваць ноччу,*
*трэба ўздрыгваць удзень*
*і трэба бегчы да небакраю*
*пустога, за якім толькі мроіва*
*і безназоўны заклік*
*далей*

**Оярс Вацыеціс (1933–1983) — Народны паэт Латвіі**
**Пераклад з латышскай — Паўла Надольская**

# Юбілейнае ды-джэйства Севярынца

Генадзь КЕСНЕР

**Стартавалі юбілейныя дзясятыя курсы «Ды-джэі Адраджэння», заснавальнікам і душою якіх з'яўляецца палітык і пісьменнік Павел Севярынец.**



Удзельнікам курсаў у найбліжэйшыя 12 тыдняў гарантавана няпростае, але вясёлае жыццё.

Курсы «Ды-джэі Адраджэння» Павел прыдумаў і заснаваў яшчэ ў 1999 годзе. Хто гэта такі — ды-джэй Адраджэння? Па словах Паўла Севярынца, гэта той, хто хоча нешта карыснае зрабіць для сваёй роднай краіны.

«Мэтай гэтых курсаў ёсць падрыхтоўка людзей, якія ў стане ладзіць шоў, акцыі, мерапрыемствы, беларускія па форме і хрысціянскія па змесце. Душа гарыць, але нечага не ўмеем, а калі і ўмеем, то не ўсё, таму і прыходзяць да нас, каб атрымаць пэўную падрыхтоўку, вопыт, што дапаможа ім працаваць потым больш эфектыўна», — кажа Павел.

«Наша формула — беларуская форма і хрысціянскі змест. Чаму менавіта так, чаму не проста беларусізацыя? Калі беларусы пачнуць размаўляць па-беларуску, чытаць беларускія кнігі і слухаць беларускую музыку, але пры гэтым не перастануць лаяцца матам, піць, рабіць аборты, забіваць адзін аднаго, то няшмат што зменіцца. Таму поруч, побач і поплеч з нацыянальным беларускім адраджэннем павінна ісці адраджэнне духоўнае, — падкрэсліў Севярынец. — Вельмі можа быць, што гэтыя курсы зменяць ваша жыццё, як яны змянілі жыццё каля ста ды-джэяў Адраджэння. Дванаццаць пераможцаў кожных курсаў уваходзяць у элітнае брацтва маладога беларускага адраджэння, і можа быць не толькі ваш лёс, але лёс і жыццё ўсёй Беларусі будзе зменены тымі, хто зараз навучаецца на гэтых курсах».

Сярод пераможцаў курсаў — знакамітыя грамадскія і палітычныя лідары: Наста Палажанка-Дашкевіч (дарэчы, на імпрэзе яна была разам з дачкой Марай і мужам Зміцерам), адказны сакратар аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД) Дзяніс Садоўскі, прэс-сакратар Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) Барыс Гарэцкі, кіраўнік грамадскай арганізацыі «Альтэрнатыва» Алег Корбан, грамадскія актывісты Андрэй Кім, Вольга Данішэвіч, Сяржук Васільеў ды іншыя.

Севярынец адзначыў, што кожны занятак будзе складацца з тэарэтычнай часткі, а таксама з інтэрактыву, то бок з магчымасці ўдзельнікаў выступіць і сказаць штосьці самім.

Вынікі ўсяго навучання-змагання будуць падведзеныя праз 12 тыдняў.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1531

Падпісана да друку 14. 11.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.